Але Р. Люксэмбург ня была-б рэвалюцыйнай марксысткай, калі-б не адрозьнівала сацыялізму ад сацыялізму і сацыялізму аднэй эпохі (эпохі ўтапічнага сацыялізму) ад сацыялізму другой эпохі. Таму зараз-жа на пачатку свайго твору не пакідае яна найменшага сумненьня, што лічыць сацыялізм Талстога ня толькі за ўтапічны, але і *за рэакцыйны*. Яна піша:

„Выказаны ў некалькіх словах ідэйны напрамак Талстога можна акрэсьліць як зварот ад сучасных адносін... да праўдзівага хрысьціянства. Ужо на першы погляд гэты ідэйны напрамак мае *рэакцыйную* ахварбоўку. Сапраўды, аб супольнасьці з сёньняшняй казённай царкоўнай рэлігіяй ня можна папракнуць хрысьціянства, якое прапаведвае Талстой; ад гэтай западозранасьці бароніць яго ўжо публічнае пракляцьце, якое ўпала на яго з боку расійска-дзяржаўнай праваслаўнай царквы. Аднак і апазыцыя супроць існуючага парадку набірае *рэакцыйнай* ахварбоўкі, калі выступае ў формах містычных. *Падвойна падазроным* робіцца хрысьціянскі містыцызм, які адхрышчываецца ад усялякай барацьбы і ўсялякай формы ўжываньня сілы, а прапаведвае навуку „несупраціўленьня злу", у такім грамадзкім і палітычным асяродку, як самадзяржаўная Расія.

Калі нарэшце Талстой стаў неспасрэдным гледачом дзейнай драмы расійскай рэвалюцыі, ён паварочваецца *адкрытна супроць рэвалюцыі* паколькі і дагэтуль ужо ў сваіх лістох выступаў выразна супроць сацыялізму, асабліва змагаўся з марксыцкай тэорыяй, якую лічыў вялікім засьляпеньнем і памылкай (падкрэсьленьне А. В.).

## 2. *Ленін пра Талстога*

Чытач не прызвычаены да дыялектычна-гістарычнага думаньня, пасьля азнаямленьня з поглядамі Р. Люксэмбург, са дзіўленьнем скажа: як гэта? „Грамадзкім ідэалам Талстога—быў сацыялізм", Талстой быў „сацыялістым паміма адчуваньня і волі", нават з „сьмелым радыкалізмам грамадзкіх пэрспэктыў"—і ў той самы час быў „рэакцыянэрам"?

На гэта Ленін, пішучы пра Талстога, адказвае:

„Ёсьць сацыялізм і сацыялізм. Ва ўсіх краінах, у якіх пануе капіталістычная вытворчасьць, маем сацыялізм, які выказвае ідэолёгію клясы, што пасягае на спадчыну пасьля буржуазіі, а таксама сацыялізм, які выказвае ідэалёгію тых кляс, на ўласнасьць якіх пасягае буржуазія. Сацыялізмам апошняга гатунку зьяўляецца, напрыклад, сацыялізм, фэадальны і ацэнку *такога* сацыялізму ўжо даўно, больш за 60 год таму назад, даў Маркс побач з ацэнкай сацыялізму іншых гатункаў". Ленін мае тут відаць на думцы „Камуністычны маніфэст", у якім Маркс і Энгельс характарызуюць „рэакцыйны сацыялізм", да якога залічаюць „сацыялізм фэадальны", „сацыялізм дробна-мяшчанскі, „нямецкі" або „чысты сацыялізм", „сацыялізм консэрватыўны або буржуазны", крытычна ўтапічны сацыялізм і камунізм".

Аб ідэалёгіі Талстога Ленін кажа, што „па свайму рэальнаму гістарычнаму зьместу гэта ёсьць ідэалёгія ўсходняга ладу, азіяцкага ладу" і піша далей:

„Навука Талстога зьяўляецца бязумоўна ўтапічнай і па свайму зьместу рэакцыйнай у самым дакладным і глыбокім значэньні гэтага слова. Але з гэтага не вынікае, каб гэтая навука ня была сацыялістычнай і каб не заключала ў сябе гістарычных элемэнтаў, якія могуць даць каштоўны матар'ял для выхаваньня прагрэсыўных кляс...

„Крытычныя элемэнты таксама ўласьцівы ўтапічнай навуцы Талтога, як і шмат іншым утапічным сыстэмам. Ня трэба аднак забысаць пра заўвагу Маркса, што значэньне крытычных элемэнтаў у всацыялізьме ўтапічным“ знаходзіцца ў адваротным стасунку да гістарычнага разьвіцьця...

„Гадоў 25 таму назад (Ленінпісаў гэта ў 1911 г. А. В.) элемэнты крытыкі ў навуцы Талстога маглі на практыцы быць часам карыснымі для некаторых пластоў насельніцтва *паміма* рэакцыйных і ўтапічных рысак талстоўства. Але на працягу апошняга скажам 10-годзьдзя ўжо так быць не магло, калі гістарычнае разьвіцьцё ад 80 гадоў да канца мінулага стагодзьдзя ня мала пасунулася наперад. Цяпер, пасьля таго, калі... шэраг гістарычных здарэньняў палажыў канец „усходняму“ становішчу застою ў Расіі... цяпер усялякае слова ідэалізацыі навукі Талстога... робіць найбольш беспасрэдную, найглыбейшую шкоду.“

* * *

Такія прыклады мелі перад сабой менскія таварышы. З гэтых прыкладаў аднак не вынікае каб Міцкевіч меў-бы быць рэакцыянэрам або ўтапічным сацыялістым у стылю Талстога. Але вынікае з іх тое, што да падобных пытаньняў трэба прыступаць з дыялектычна-матэрыялістычным мэтадам марксызму, з мэтадам, які падобныя зьявішчы разглядае ня ў пустой адлегласьці, але на грунце клясавых адносін і барацьбы, у залежнасьці ад гістарычных умоў, часу і мейсца. З гэтага пункту погляду і будзем разглядаць гэтыя тры факты, аб якіх мы гаварылі ў пачатку артыкулу і якія зьяўляюцца праявай нацыянал-бальшавіцкага ўхілу. Аб Міцкевічу зазначым тут толькі каротка, што ў сваім часе быў ён бяссумненна шчырым дэмакратам з моцным акцэнтам на справу міжнароднай салідарнасьці народаў. Пры гэтым аставаўся праз пэўны час, як і шмат іншых дробна-шляхэцкіх польскіх дэмакратаў у эміграцыі, пад уплывам утапічнага сацыялізму Ст. Сімона, а таксама пад уплывам дэмакратычнага славянафільства Лелевеля, разам з якім—як пісаў Б. Ліманоўскі—„ідэалізаваў ён польскія падзеі і бачыў у іх паступовае разьвіцьцё вольнасьці і братэрства“, таксама ў духу гэтага славянафільства лічыў вобшчыннае ўладаньне зямлёй за славянскую ўласьцівасьць і дамагаўся звароту да вобшчыннай зямельнай уласнасьці. Але гэты ўплыў Ст. Сімона і Лелевеля не складаў ані галоўнага, ані прынцыповага рысу ў творчасьці Міцкевіча, яго „сацыялізм“ быў хутчэй эпізодам, які хутка праходзіць, не ствараў аніякай школы, аніякай сыстэмы думаньня, як у іншых утапічных сацыялістых, або ў Талстога.

Нарэшце, пытаньне нашых адносін да Міцкевіча стаяла ўжо раз зусім канкрэтна перад нашай партыяй. Было гэта ў 1898 г. у сотую гадавіну яго нараджэньня. Тады ППС, каб абгрунтаваць і апраўдаць перад рабочай клясай свой удзел у агульна-нацыянальнай шовіністычнай урачыстасьці гэтай гадавіны і ў згодзе са сваім дробна-мяшчанскім „сацыялізмам“, абвясьціла Адама Міцкевіча за сацыяліста. Наша партыя (СДКП і Л) была тады арганізацыйна разьбіта арыштамі і пазбаўлена свайго друкаванага органу. Але паміма гэтага супроцьставілася яна пазыцыі ППС. Зрабіла гэта ад яе імя Р. Люксэмбург у артыкуле аб Адаме Міцкевічу зьмешчаным у („Lipskiej Gazecie-Ludowej“ Lejpziger Volkszeitung) ад 24/XII-1898 г. Лічым, што зробім нашай партыі паслугу, калі ў перакладзе падамо тут цалкам гэты артыкул, невядомы сучаснаму пакаленьню польскіх таварышоў.

## III. Адам Міцкевіч

*Артыкул Розы Люксэмбург кажа:*

Калі-б Польшча ў сваёй літаратуры ня мела-б больш нікога акрамя песьняра, якога сотую гадавіну нараджэньня яна сьвяткуе 24 сьнежня, з поўным правам магла-бы мець пратэнзіі заняць годнае мейсца ў сусьветнай літаратуры побач з найпершымі культурнымі народамі.

Адам Міцкевіч зьяўляецца ня толькі адным з найвялікшых польскіх паэтаў, але і адным з найвялікшых на сьвеце. Зьяўляецца ён паэтам, з імям якога як наймацней сплецена ўся нацыянальная і духоўная гісторыя Польшчы. Імя Міцкевіча азначае ў Польшчы цэлую эпоху.

Хоць падзел Польшчы прынёс ёй зусім новыя палітычныя абставіны, на пачатку аднак і ў працягу першых двух 10-годзьдзяў 19 стагодзьдзя яе духоўнае і культурнае жыцьцё было ў сапраўднасьці далейшым працягам апошняга пэрыяду старай шляхэцкай рэспублікі. Шляхта астаецца пануючай клясай, магнацтва зьяўляецца і ў далейшым духоўным кіраўніком грамадзтва, земляробства, апёртае на прыгоньніцкай працы складае і далей яе матар'яльны грунт.

Духоўнае і палітычнае жыцьцё канцэнтруюцца яшчэ не ў гарадох, а на вёсцы, у старых панскіх маёнтках.

Для вышэйшай польскай шляхты, а таксама для магнацыі пад расійскай акупацыяй тагочасны пэрыяд быў вельмі шчасьлівым. Утрымала яно і на далей большасьць старых інстытуцый, а на літоўскіх землях падданства сялян. Усе грамадзкія ўстановы, шмат нават установ у самой Расіі былі ўкамплектаваны палякамі. „Грамадзкая думка,—як кажа тагочасны К. Козьмян,—падавала: „у некаторай ступені адчуваем мы сябе зараз ляпей, чымся за польскія часы: захавалі мы ў большай частцы ўсё тое, што нам дала бацькаўшчына, у той самы час звольнілася ад цяжараў і небясьпекі сялянскіх паўстаньняў; бяз Польшчы, а аднак знаходзімся ў Польшчы і зьяўляемся палякамі [1]).

Магнацкія маёнткі застаюцца таксама і на далей асяродкамі літаратурнага і духоўнага жыцьця. Магнат усё яшчэ адыгрывае ролю абаронцы мастацтва, а мастацтва, асабліва літаратура, усё яшчэ часткова прадстаўлена аматарамі ад лайдацтва „добра народжаных" дылетантаў, з шабляй, або ў сутане, часткова зьяўляюцца формай духоўнага лёкайства лісьліўцаў.

Зусім зразумела, што ў гэтых умовах духоўнае жыцьцё ня надта было зьвязана з нацыянальным мінулым. Галоўны яго матыў, увесь яго характар складала хутчэй—насьледаваньне заграніцы. Менавіта наполеонаўская Францыя была той крыніцай з якой чэрпала тагачасная Польшча. Але ў самай Францыі напудраны псэўдоклясыцызм ішоў тады на мыліцах, а тое, што было прышчэплена ў Польшчы, было толькі цьмянай пародыяй гэтага псэўдоклясыцызму, галоўнай адзнакай яго была гладкая, жорсткая пустая форма, поўная адсутнасьць індывідуальнасьці, унутранога пачуцьця і якой-небудзь больш глыбокай думкі.

Ад самага аднак пачатку ў грамадзтве падрыхтоўваўся пераварот. Скасаваньне падданства, зробленае Напалеонам у 1807 г. у вялікім княстве Варшаўскім (бяз урэгуляваньня цяжараў прыгону і ўлась-

[1]) Ня маючы пад рукамі твораў Каетана Козьмяна, падаем гэтую цытату ў перакладзе з нямецкага А. В.

ніцкіх зямельных адносін) увядзеньне наполеонаўскага Цывільнага Кодэксу, узьнікненьне мануфактурнай прамысловасьці, пераварот у землеробстве (пераход да пладазьмену), новая сыстэма бюракратычнай адміністрацыі, моцнае павялічэньне падатковых цяжараў і фіскальная сыстэма манаполій,—такімі былі элемэнты нездаваленьня, якія віравалі ў грамадзтве і падрыхтоўвалі грунт да новай клясавай барацьбы. У гэтым самым часе, калі магнаты, якія трымалі ў сваіх руках усю адміністрацыйную ўладу, а тагачасныя прадстаўнікі капіталу аставаліся вернымі ў адносінах да пануючага ладу і, такім чынам, у адносінах да Расіі, сярод масы землеробскай шляхты і асабліва сярод дробнай безьзямельнай шляхты расла сільная апазыцыя, якая натуральна павінна была прыняць нацыянальны характар і зьвярнуцца да мінулага, як свайго ідэалу. Падрыхтоўвалася паўстаньне 1831 г.

Адначасна зьмяняюцца ўмовы духоўнага жыцьця. Пасьля разбурэньня старых норм жыцьця дробная шляхта павінна была шукаць новых шляхоў кар'еры. Новая бюракратычная сыстэма вымагала спэцыяльнага выхаваньня, як новага сродку жыцьця, школа, публіцыстыка атрымоўваюць новае значэньне для шляхты, узьнікае ў Польшчы новы грамадзкі пласт, менавіта шляхэцкая інтэлігенцыя. Займаецца яна літаратурай ужо не з аматарства, бо лічыць яго не як службовы абавязак у вялікіх маёнтках, як гэта было ў звычаі ў магнацкіх сфэрах, але як прафэсыянальны занятак. Згодна з супярэчнасьцямі ў эканамічным і палітычным становішчы і імкненьнямі абодвых пластоў у шляхэцкім грамадзтве, духоўная плынь, прадстаўленая інтэлігенцыяй з ніжэйшай землеробскай шляхты, атрымоўвае зусім інакшы характар. У той час, калі афіцыйная літаратура пануючага магнацтва корміцца псэўдоклясычнымі матывамі Францыі, апазыцыйная літаратура ніжэйшай шляхты зьвяртаецца да матываў нацыянальных, і ў той час, калі клясычная літаратура апявае сучаснасьць, нацыянальная літаратура зьвяртаецца да мінулага, якое бачыць у містычнай адзнацы і знаходзіць адпаведную сабе форму і свой узор у нямецкім рамантызьме.

Клясыцызм і рамантызм—гэта былі супярэчнасьці перанесеныя ў сфэру мастацтва, супярэчнасьці, якія загастраліся таксама ў эканоміцы і ў палітыцы і якія хутка мелі загучэць у гуку стрэльб і бразганьні шабляў паўстанцаў. І хоць на палёх боек пад Граховым і Прагай перамога належала прадстаўнікам пануючага ладу, расійскаму панаваньню, аднак на полі духоўных боек павінны былі яны адступіць. У той час, калі „клясыкі" маглі пасылаць на арэну толькі шэрую масу пасрэднасьцяў, бяздушных рамесьнікаў формы, рамантызм выцягнуў раптам з асяродку грамадзтва цэлую пляяду маладых славутых талентаў і на небе польскай літаратуры, як найясьнейшая зорка пачынаючага дня, зазьяў магутны гэні Адама Міцкевіча.

Правадыр і прадстаўнік цэлай гэнэрацыі ён быў—згодна з духоўным напрамкам, які прадстаўляў—адначасна лірыкам і эпікам, а таксама бардам каханьня айчыны і сумаваньня патрыётаў, як аб'ектыўным мастаком нацыянальнага мінулага.

Два галоўныя яго творы, у якіх пакінуў адвечныя помнікі гэтых кірункаў гэта: „Дзяды" і „Пан Тадэуш". Ніколі яшчэ дагэтуль і ніколі пасьля не выказвалася ў польскай мове падобная магутнасьць пачуцьця, такая глыбіня сэрца, такая асілкавая сьмеласьць духа, як у „Дзядох", у якіх паэта ў пачуцьці магутнасьці свайго каханьня да айчыны заклікае з арэны тварца сьвету. І ніхто больш ні перад ім і ні пасьля яго не намаляваў старое шляхэцкае Польшчы ва ўсёй яе казачнай каляровай адзнацы ў так скончана-майстэрскім творы, як „*Пан Тадэуш*".

У сваёй наіўнай сьціпласьці думаў паэта, што стварыў нешта накшталт Гэрмана і Даратэі Гётэ, якога таксама з пачатку ўзяў сабе за ўзор — параўнаньне якое можа выклікаць у чытача толькі ўсьмешку, бо эпопея Гётэ таксама ня можа быць параўнана з „Панам Тадэушам“, як, напрыклад, з „Іліадай“. Да апошняй бяссумненна набліжаецца гэты галоўнейшы твор Міцкевіча, але мае ён яшчэ нешта супольнае і з Дон-Кіхотам, бо не зьяўляецца гэта адбіцьцём грамадзтва, якое б‘е здаровым апраменёным сонцам і ў збожжавым супакоі прыглядваецца да сьвету з вышыні свайго разьвіцьця, як малюе Гомэр, але зьяўляецца гэта вобразам грамадзтва, якое раскладаецца і асуджана на сьмерць: адсюль, незалежна ад майстроўскага аб‘ектывізму ў клясычным супакоі аповесьці, слабы цень балючай іроніі, сатырычнага і адначасна пагоднага гумару, які асьвятляе ўвесь гэты магутны вобраз як ружовае праменьне заходзячага сонца.

Нічога дзіўнага няма, што зьяўленьне Міцкевіча ў паэзіі зрабіла ўплыў на польскае грамадзтва як прароцтва. Пасьля першых сваіх твораў, менавіта пасьля дасканалай „Одзе да моладасьці“, у якой паэта з парываўчым юнацкім энтузіязмам у строфах, што рабілі ўплыў як удар молата, заклікае ўсю сваю гэнэрацыю супольнымі патугамі зрушыць з мейсца забрасьнелую камлыгу сьвету і пхнуць яе на новыя каляіны,—зрабіўся цэнтральнай фігурай усяго духоўнага руху і прадматам бязьмежнай пашаны, праўда – толькі маладой генэрацыі, але належыў ён толькі да яе як і ўвесь тагачасны момант польскай гісторыі. Нават на суседнюю Расію яго геніяльнасьць рабіла такі магутны ўплыў, што ў часы яго сасланьня інтэлігенцыя расійскіх сталіц насіла яго на руках і асабліва сярод пазьнейшых дэкабрыстых знайшоў ён сабе сардэчных прыяцеляў.

У той самы час, калі рамантызм пашыраў замілаваньне да мінулага, сапраўднасьць, не зважаючы на гэта, ішла сваімі шляхамі, якія вялі ўсё далей ад ідэалу Міцкевіча і яго школы. Справа, якую прадстаўляла гэтая школа, была загадзя асуджана гісторыяй на пройгрыш. А таму, што рамантызм атрымліваў ад рэальнай рачаістасьці ўсё больш суровыя ўдары, не аставалася яму нічога іншага—паколькі ён сам не хацеў зьнікнуць,—як адыйсьці ад гэтай рачаістасьці яшчэ глыбей у царства фантазіі, яшчэ больш скасаваць гэту рачаістасьць у сваім выабражэньні. Лёгічным крокам, які пасьля заняпаду нацыянальнага руху павінен быў прыйсьці пасьля рамантызму, быў містыцызм. Міцкевіч, як і шмат іншых яго братоў у Апалёне, прышлі канчаткова да пустога порту, пазбаўленага жыцьця, рэлігійнага містыцызму. Было гэта лёгічным вынікам іх духоўнага напрамку і адначасна банкруцтва самой поэзіі. Хутка пасьля заняпаду паўстаньня замоўк салавей польскай нацыянальнай справы і праз 20 апошніх год перад сваёй сьмерцю (1855 г.) Міцкевіч ужо амаль нічога для паэзіі не зрабіў. „Пан Тадэуш“ стаў апошнім творам гэнія.

Быў ён аднак і апошнім вялікім помнікам польскага нацыяналізму. Пасьля паражэньня паўстаньня (1861—63 г.) пачаўся вядомы пераварот усяго грамадзкага жыцьця дзеля скасаваньня натуральнай гаспадаркі і ўвядзеньня буйной прамысловасьці. Як ад датыканьня чароўніцкай палачкі ўсе ўнутраныя і знадворныя адносіны Польшчы зьмяніліся так, што не пазнаць. Сёньняшняя Польшча, мае з Польшчай, у якой пісаў сваю паэзію Міцкевіч, і тым больш з той, якую апяваў, ня шмат больш супольнага, чымся з якім-колечы іншым чужым краем. Вясковыя вобразы, зялёныя лясы і сенажаці, якія стваралі фон рамантычнай паэзіі, шляхта, якая запаўняла яе сцэну, усё гэта адышло на другі плян. Сёньняшняя Польшча—гэта буржуазная

Польшча вялікага гораду. А сёньняшняя ўрачыстасьць адкрыцьця помніка Міцкевічу ў Варшаве, пастаўленага „з найвысшага найміласьцівейшага дазволу цара Усея Расіі“, гэтым, пакліканым на ролю гістарычнага грабакопа польскага нацыяналізму,—польскай буржуазіяй, у прамысловай, здэнацыяналізаванай Варшаве, мае толькі паказаць сьвету, што ў вачох афіцыяльнага польскага грамадзтва, буржуазіі, шляхты, масы дробна-мяшчанства, нацыяналізм зьмяніўся канчаткова ў рамантызм, палітыка незалежнасьці—у паэзію. У Вільні, дзе Міцкевіч узрос, сьпяваў і тварыў—помнік Мураўёва; у Варшаве, дзе расійскага цара нядаўна ўрачыста вітала гэтак званая польскае грамадзтва на каленах—помнік Міцкевіча. „Так скончыў апошні прарок нацыяналізму“... У гэтым пераказаным сказе Міцкевіча дадае Гісторыя да 12 кніжак *„Пана Тадэуша“*, 13 кніжку, як эпілёг.

У сучаснай Польшчы, у якой нямецка-яўрэйска-польская буржуазія зьяўляецца найбольш міжнародным і найбольш анты-нацыянальным тыпам капіталістычнай клясы, у якой буйная шляхта часткова прасякнула ў буржуазію, часткова прагніла ў духоўным барбарынстве, у якой дробная шляхта часткова зьлілася з гарадзкім дробна-мяшчанствам, часткова перашла ў сялянства, у якой сялянства аказалася сапхнутым ніжэй культурнага стану, *клясава-ўсьвядомлены прамысловы пралетарыят* складае адзіны пласт, які зьяўляецца зацікаўленым і гістарычна-здольным стаць вартаўніком *культурнага* боку палітычна-збанкрутаванага нацыяналізму.

Зрабілася звычаем сярод польскіх сацыялістых выцягваць з твораў Міцкевіча за ўсялякую цану доказы яго сацыялістычных поглядаў. Што датычыцца нас, дык мы ня маем ахвоты да падобных спроб. Тая рэштка ўтапічнага сацыялізму, якая знайшла сваё адбіцьцё ў Міцкевіча зьвязана з тым няшчасным пэрыядам яго жыцьця, у якім яго поэтызм і гэні быў ужо заслонены і здушаны покрыўкай рэлігійнага містыцызму.

Усьвядомлены пралетарыят ёсьць, па нашай думцы, досыць дарослым, каб любіць і шанаваць вялікага паэту за яго паэтыцкую гэніяльнасьць і ня трэба, каб дзеля гэтай мэты дазваляў асьляпляць няяснымі, містычна-утапічнымі сацыялістычнымі выабражэньнямі з яго пэрыяду паэтычнага заняпаду. Нагэтулькі цесным ня можа быць кругавід клясы, якая хоча аднавіць сьвет. Нарэшце, Міцкевіч быў таксама ў пэрыядзе бляску сваёй творчасьці шчырым *дэмакратам*, згодна з усёй ідэалёгіяй паўстанцаў. Але прадстаўніком або папярэднікам новачаснай рабочай клясы і яе клясавай барацьбы ня быў і быць ня мог. Быў ён апошнім і найбольшым песьняром *шляхецкага нацыяналізму*, але як такі быў таксама найбольшым увабраньнем і прадстаўніком польскай нацыянальнай культуры. *Як гэткі* належыць ён цяпер да польскай рабочай клясы, як гэткага бярэ яна яго ва ўласьнасьць,—бо толькі выключна яна мае на гэта права, як на найбольшую духоўную спадчыну даўнай Польшчы. У Нямеччыне клясава ўсьвядомлены пралетарыят зьяўляецца—паводлуг слоў Маркса—насьледнікам клясычнай філёзофіі. У Польшчы ён зьяўляецца—на падставе іншых гістарычных прычын, насьледнікам рамантычнай паэзіі, а таксама яе найбольшага карыфэя Адама Міцкевіча.

## IV. „1863 г. на Меншчыне“ і т. Ясінскі

Тав. Гэльтман зьяўляецца ня толькі абаронцам сьцьверджаньня, што Міцкевіч быў сацыялістым. Зьяўляецца ён адначасна гарачым абаронцам кніжкі пад назвай „1863 г. на Меншчыне“, выдадзенай коштам *Інстытуту Беларускай Культуры ў Менску*. Гэты факт, уся

спрэчка аб Міцкевічу, а таксама гэтая кніжка, з другога боку той факт, што ўсё гэта дзеецца ў Менску ў 1927-28 г., а ня дзесьці ў Варшаве ці ў Кракаве і ня перад імпэрыялістычнай вайной за царскімі часамі, але цяпер у пэўных гістарычных умовах, на пэўнай савецкай тэрыторыі, блізка ад граніцы фашысцкай дзяржавы,—паказвае, што маем тут справу не з якімісь-ці выпадковымі праявамі, але з разумовай плыньню, якая зьвязваецца беспасрэдна з умовамі мейсца і часу. Скажам аб гэтым у канцы нашага артыкулу, а цяпер займемся „спрэчкай“ узьнятай т. Ясінскім аб кніжцы 1863 г.

Чым зьяўляецца гэтая кніжка? На першы погляд толькі зборнікам важных гістарычных дакумантаў. Ці патрэбна было гэтыя дакуманты вывучаць і друкаваць? Відавочна патрэбна. Але справа ў тым, што *гэтая* кніжка магла-бы быць выдадзенай без усялякіх зьмен у Варшаве, Кракаве або Пазнані пілсудчыкамі, пэпээсаўцамі, эндэкамі, Кракаўскай Акадэміяй або інш.,—а выдадзена яна ў Беларускай пралетарскай рэспубліцы.

Ва ўступе да гэтай кніжкі (няведама дзеля чаго напісаным пафранцуску!) гаворыцца, што мае яна „пэдагагічную мэту“—а менавіта—„даць унівэрсытэцкай моладзі магчымасьць адукацыі бяз доўгага шуканьня найбольш характэрных дакумантаў“. Якой унівэрсытэцкай моладзі? Ці той, якую выхоўвае фашысцкая рэспубліка Пілсудскага? Не. Відавочна гутарка ідзе аб моладзі, якую мае адукоўваць Беларуская Пралетарская Рэспубліка. Чаму гэтая кніжка навучыць моладзь?

Навучыць, што з аднаго боку быў бязьлітасны зьвер Мураўёў, з другога—гэройскія паўстанцы, якія змагаліся за адарваньне Беларусі „ад Масквы“, за далучэньне яе да вольнай дэмакратычнай Польшчы, і што гэтая барацьба палякаў з „маскалямі“ была рэвалюцыйнай. Гэтаму і *толькі* гэтаму навучыцца моладзь ня толькі ад сабраных у гэтай кніжцы дакумантаў, але таксама і ад францускага і польскага ўступу да іх.

Ці не зьяўляецца праўдай, что з аднаго боку быў бязьлітасьны царызм і зьвер Мураўёў? Так, зьяўляецца праўдай. Ці праўда, што барацьба палякаў супроць царызму мела рэвалюцыйнае значэньне? Праўда. Але паўстае пытаньне, ці ў інтарэсах гісторыі наогул, польскіх паўстаньняў асабліва, павінна пралетарская дзяржава і камуністычная партыя даваць унівэрсытэцкай моладзі (і працоўным масам наогул) такую самую навуку, як польская буржуазная дзяржава, ППС або іншая „народная“ польская партыя?

Тав. Ясінскі на гэтае пытаньне, здаецца, адказвае станоўча. Абураецца ён на т. Зьдзярскага, які першы даў нэгатыўную ацэнку гэтай кніжцы, закідвае, што т. Зьдзярскі „не згаджаецца з трактаваньнем паўстанчай арганізацыі, як арганізацыі рэвалюцыйнай“ і супроцьставіць яму „нядвузначную думку Маркса, Энгельса і Леніна“. Асуджаючы Зьдзярскага, т. Ясінскі з вялікай самаўпэўненасьцю піша: „у кожным выпадку мы павінны на гэтай пазыцыі стаяць датуль, пакуль т. Зьдзярскі не давядзе, што погляды Маркса і Энгельса зьяўляюцца памылковымі, якія, а гэта ўсім вядома, глядзелі на польскае паўстаньне, як на рэвалюцыйную барацьбу з царызмам, у якой інтарэсы і сымпатыі пралетарыяту цалкам і нядвузначна знаходзяцца на баку паўстанцаў і зьвяртаюцца супроць царызму“. Вось, суровы т. Ясінскі нават піша, што т. Зьдзярскі „не пахіснуўся злоўжываць старонкі камуністычнага друку для кепска замаскаванай атакі на ясныя і нядвузначна выказаныя погляды нашых правадыроў такой меры, як Маркс, Энгельс і Ленін!“ У лісьце да рэдакцыі „Трыбуны Радзецкай“ т. Ясінскі нават

папераджае, што зьяўляецца „можа адзіным у шэрагах польскіх камуністых гісторыкаў, які спэцыяльна вывучае навуковы пэрыяд 1861-84 г.", што акрамя „вялізнага матар'ялу", які датычыцца гэтага пэрыяду, вывучыў „таксама ўсю адпаведную палітычную літаратуру Маркса, Энгельса, Леніна, Пакроўскага, Сьцяклова, Мархлеўскага і інш." і, што „бярэ поўную адказнасьць за ўсе выказаныя ў артыкуле сьцьверджаньні і калі патрабуецца можа іх падмацаваць адпаведнымі матар'ямі.

Маем поўную павагу да гістарычных навуковых вывучаньняў т. Ясінскага. Паміма гэтага і хоць самі ня можам залічыць сябе ў шэраг вучоных гісторыкаў, асьмельваемся аднак з усёй сьціпласьцю і прастатой духа заўважыць, што ўжо ня раз у гісторыі нашай партыі былі выпадкі, калі выступалі супроць яе польскія шавіністыя, якія спасылаліся таксама на Маркса і Энгельса, Пляханава і Леніна і г. п. Менавіта, правадыры ППС дасканала вывучылі „таксама ўсю адпаведную палітычную літаратуру Маркса і Энгельса" і падавалі ўсе сьцьверджаньні гэтых правадыроў аб рэвалюцыйным значэньні польскіх паўстаньняў, што аднак не перашкаджала Леніну і іншым рэвалюцыйным марксыстым сьцьвярджаць, што пэпээсаўцы застаюцца шавіністымі таксама і тады, калі падаюць цытаты з Маркса і Энгельса. Ня хочам відавочна сказаць гэтым, што т. Ясінскі мае нешта супольнае з шавіністымі. Але маем усялякія прычыны баяцца, што калі тав. Ясінскі пасьля Кастрычнікавай рэвалюцыі, у пэрыядзе боек Савецкага Саюзу, апірае свае погляды на польскія паўстаньні толькі на тых сьцьверджаньнях Маркса і Энгельса, якія кажуць аб рэвалюцыйным значэньні паўстаньня і нічога ня кажуць аб іншых іх сьцьверджаньнях—то прынамсі для нашай партыі, усе яго навуковыя вывучаньні будуць вартымі... для коміна. Бо той, хто цяпер у 1928 г. падае толькі гэтыя сьцьверджаньні, той кажа палову праўды, а палова праўды ў сучасных умовах азначае ўсю няпраўду, якая—кажучы словамі самога т. Ясінскага—„павінна быць палічана наскрозь шкадлівай" ня толькі для яго „навуковага вывучэньня", але што горш, для барацьбы пралегарыяту.

Пабачым аднак, чаму ў пэўным гістарычным пэрыядзе рэвалюцыйныя дэмакраты, а таксама Маркс і Энгельс адзначалі рэвалюцыйнае значэньне польскіх паўстаньняў, і як разважалі адначасна аб другім баку мэдалі, які астаецца таямніцай для тав. Ясінскага і іншых абаронцаў гэтай кніжкі.

### *1. Рэвалюцыйнае значэньне польскіх паўстаньняў*

Тадэуш Кожан, вядомы польскі гісторык, аўтар каштоўнага твору аб Касьцюшку (і Касьцюшкаўскім паўстаньні 1794 г) піша:

„Дзіўным загадам лёсу польскае паўстаньне, не атрымаўшы найменшай дапамогі (ад рэвалюцыйнага французскага ўраду А. В.), само падало Францыі вельмі значную палёгку. Адкрыў гэта прускі гісторык фон-Сыбель, што пачатая кааліцыйнай арміяй атака ў 8 калён, якія налічвалі 140 тысяч салдат, была спынена, калі атрымалі данясеньні і быў выгнаны з Варшавы Ігельстром. Фрыдрых Вільгельм другі і Францішак абярнуліся плячамі да бэльгійскага тэатру вайны, зьвяртаючы ўсе свае патугі да Віслы. Іх правадыр, князь Кобург, адступаў ужо ад граніц Францыі, калі генэрал Журдон даў яму генэральную бойку пад Флёўрус 25 чэрвеня. Аўстрыйскі гісторык Зэіссман агаласіў дакуманты, з якіх відаць чаму пасьля гэтай бойкі Францішак II ня ўзмоцніў свае разьбітае арміі сьвежымі падмацаваньнямі. Высылаў усялякія распараджальныя батальёны, дывізыёны і арматы ў Галіцыю. Пільна таксама сачыў за гэтым уплывам польскай справы на вынік кааді-

цыйнай вайны сьветлы француэкі гісторык Альбэрт Сорэль і знайшоў ня мала дакладных тлумачэньняў у архівах“ (стар. 368).

Як бачым ужо Касьцюшкаўскае паўстаньне зрабіла вядомую паслугу Вялікай Францускай Рэвалюцыі, будучы пэўнай прычынай яе вайсковай перамогі на месяц перад тэрмідорам. Памыляецца Кожан, калі лічыць што толькі фон-Сыбель адшукаў гэтую сувязь. Вось-жа і самі якабінцы шукаючы саюзьнікаў супроць манархістычнай коаліцыі, якая на іх напірала, аглядваліся, між іншым, таксама на ахопленую паўстаньнем Польшчу. Для эўрапейскіх дэмакратаў, а пазьней для Маркса і Энгельса гэтая сувязь зрабілася асабліва яснай у выніку дапамогі, якую падало польскае паўстаньне 1830-31 гадоў ліпнёвай рэвалюцыі ў Парыжу, робячы немажлівым ваенны паход „сьвяшчэннага саюзу“ манархаў супроць рэвалюцыйнай Францыі.

Асабліва так каротка-трывалае няўдалае паўстаньне 1846 г. з Мірaслаўскім на чале, распачатае ў Кракаве пад радыкальна-дэмакратычнымі лёзунгамі, якія абвяшчалі сялянам ня толькі свабоду і грамадзянскую роўнасьць, але таксама дармовае скасаваньне прыгону, прызнаньне ўласнасьці зямлі, якую яны мелі і г. п. здабыла справе паўстанцаў новыя сымпатыі эўрапейскага пралетарыяту. Ад часу Кракаўскага паўстаньня гэтая справа стала аднэй з найважнейшых спраў замежнай палітыкі рабочых Англіі, Францыі і Нямеччыны. Аднэй з прычын гэтага быў і такі факт, што пасьля паражэньня паўстаньня 1831 г., расьсееныя на эміграцыі паўстанцы, па меры разьвіцьця сваёй крытыкі паўстаньня даходзілі да радыкальных поглядаў, рабіліся шчырымі дэмакратамі, а нават пэўная частка эмігрантаў, якая прадстаўляла дробную шляхту і асабліва сялянскіх жаўнераў, арганізаваная „грамада Грудзёнж Польскего Народу“ дайшла ў сваёй крытыцы шляхты да сацыялістычных поглядаў, праўда згодных з тагачасным сэнсам утапічнага і сантымэнтальнага сацыялізму, але гэтыя погляды супроцьставілі востра бацькаўшчыну народу, бацькаўшчыне шляхты і вялі да аграрнай рэвалюцыі ў імя супольнай ўласнасьці і сацыяльнай роўнасьці.

Усё гэта павялічвала сымпатыі эўрапейскай дэмакратыі і рабочай клясы да польскіх паўстаньняў і было прычынай таго, што пачынаючы ад 1847 г. польскае пытаньне стала на парадку дня кожнага міжнароднага дэмакратычнага аб‘яднаньня, а Маркс і Энгельс выказваліся пры кожным выпадку аб польскай справе, злучаючы заўсёды паўстанчую барацьбу палякаў з інтарэсамі эўрапейскай дэмакратычнай рэвалюцыі і сацыялізму. Гэта выклікала таксама тое, што ў „Камуністычным Маніфэсьце“ Маркс і Энгельс кажуць аб польскай справе:

„Сярод палякаў камуністы падтрымліваюць партыю, якая лічыць аграрную рэвалюцыю за неабходную ўмову здабыцьця нацыянальнай вольнасьці,—тую самую партыю, якая выклікала Кракаўскае паўстаньне 1846 г.“

Сувязь польскіх паўстаньняў з інтарэсамі эўрапейскай дэмакратыі і сацыялізму была тады найбольш рэальнай і яснай, а ўдзел паўстанцаў ва ўсіх рэвалюцыйных Заходня-эўрапейскіх рухах, у нацыянальнай вэнгерскай рэвалюцыі 1848-49 г. і ў Парыскай Камуне яшчэ больш удаводніў гэтае рэвалюцыйнае значэньне польскіх змаганьняў за дзяржаўную незалежнасьць. Маркс і Энгельс па меры разьвіцьця здарэньняў зьмянялі, зразумела, ня раз свае канкрэтныя фармуліроўкі, свае канкрэтныя погляды на польскую справу ў дадзенай фазе гістарычнага разьвіцьця, але ў кожным выпадку быў галоўны заўсёды адзін і той самы пагляд—інтарэс дэмакратычнай рэвалюцыі,

абарона дэмакратыі і сацыялізму супроць сталай небясьпекі, супроць сталай пагрозы ў постаці дэспотычнага расійскага калосу. Царызм быў самай магутнай, самай грознай скалой эўрапейскай рэакцыі. Дакуль у самым царызьме не зьявіліся сілы, здольныя ў сваім разьвіцьці нізрынуць гэты грозны калос, датуль здавалася ён быў непарушным гранітам, нярухомай усходня-азіяцкай дзяржаўнай камлыгай і польскія паўстаньні—незалежна ад свайго сацыяльна-палітычнага зьместу ў самой Польшчы—былі адным з найважнейшых сродкаў заслоніваньня эўрапейскай дэмакратыі ад пагрозы гэтага калосу і яго аслабленьне ўнутры самой Расіі. Вось чаму і шчырыя расійскія дэмакраты баранілі паўстаньне 1863 г., а дэмакратычныя расійскія афіцэры пераходзілі ў паўстанцкія шэрагі.

Але з гэтага зусім ня вынікае, каб рэвалюцыйныя эўрапейскія дэмакраты, каб Маркс і Энгельс і каб самыя польскія дэмакраты ня бачылі адваротнага боку мэдаля і не крытыкавалі-б самых паўстаньняў.

І як яшчэ крытыкавалі!..

*2. Крытычныя адносіны да паўстаньняў*

Вядома якую паслугу вялікай францускай рэвалюцыі зрабіла Касьцюшкаўскае паўстаньне. Ці давалі сабе справаздачу якабінцы, якія стаялі тады на чале рэвалюцыі з таго, што польскае паўстаньне зьяўляецца патрэбным для францускай рэвалюцыі? Бязумоўна. Гэтак, „Манітор“, афіцыйны орган рэвалюцыі, пісаў артыкулы і зьмяшчаў карэспандэнцыі, прыхільныя для паўстанцаў. Але паміма гэтага ў гісторыі А. Сорэля можна знайсьці шмат доказаў, якія сьведчаць аб тым, як крытычна і рэальна ацэнівалі якабінцы Касьцюшкаўскае паўстаньне. Гэтак, напрыклад, на рапарце пачатку 1794 г. аб неабходнасьці дапамогі для паўстаўшай Польшчы, знаходзім гэткую міністэрскую рэзалюцыю: „Рэспубліка ня можа значна дапамагчы ўзброеньню палякаў, ды палякі і не разумеюць сувэрэннасьці (агульнаўладзтва) народу, ня здолеюць выклікаць непарадкаў у Расіі“.

28 красавіка 1794 г. на рэфэраце, у якім напаміналася, што палякі патрабуюць грошы на паўстаньне, ад імя Камітэту Ратаваньня напісана гэткая рэзалюцыя: Не пасылаць зусім грошы, узброеныя рэспубліканцы загадваюць усімі багацьцямі краю“... на іншую прапазыцыю дапамогі Камітэт адказаў між іншым „Паўстаньне зроблена шляхтай“...

Як бачым, рэвалюцыйная француская дэмакратыя ведала, што паўстаньне робіць шляхта, што шляхта ня можа змагацца за „сувэрэннасьць народу“, што ня можа „выклікаць непарадкаў (сялянскіх) у Расіі“ і г. д.

Але вернемся да Маркса і Энгельса. Як мы ўжо казалі, яны падкрэсьлівалі, дэмакратычны характар паўстаньняў, асабліва паўстаньня 1846 года і 1863 года, а таксама значны ўдзел эмігрантаў паўстанцаў у Заходня Эўрапейскіх рэвалюцыях і Парыскай камуне. Але яны адзначалі рэвалюцыйнае значэньне польскіх паўстаньняў не таму, што нібыта паўстаньні гэтыя мелі на мэце выклікаць дэмакратычную рэвалюцыю ў самой Польшчы, або паўстаньне сялян супроць шляхты. Глядзелі яны так на польскія паўстаньні, галоўным чынам, калі ня выключна з погляду на іх *знадворнае* значэньне, з погляду на дапамогу, якую падавалі эўрапейскай дэмакратыі паўстаньні ў Польшчы і збройны ўдзел паўстанцаў эмігрантаў у эўрапэйскіх рэвалюцыях. Польшча і польскае паўстаньне былі паводлуг іх погля-

даў мурам, які захоўвае эўрапейскую дэмакратыю ад самага небясьпечнага яе ворага, ад Расіі. Польшча і Эўропа ў супроцьстаўленьні да Расіі, як адзінай, нярухомай, закасьцянелай камлыгі дэспатызму, вось галоўная падстава поглядаў Маркса і Энгельса на Польшчу і польскія паўстаньні. Гэтыя погляды можна найлепш выказаць уласнымі словамі Маркса ў яго рэзалюцыі 1867 г. па польскай справе: „Без незалежнасьці Польшчы ня можа быць угрунтавана вольнасьць у Эўропе“,—або наступнымі словамі, якімі Маркс абгрунтоўваў сваю рэзалюцыю: „Ці-ж акрамя польскага народу існуе іншы фактар, які мог-бы паралізаваць пляны Расіі?“

Але гэта відавочна не азначае, што Маркс і Энгельс у публічных сваіх выступленьнях, у публікацыях і прамовах выказвалі заўсёды адны і тыя самыя погляды незалежна ад разьвіцьця гістарычных адносін. У 1874 г. Энгельс піша (з прычыны адозвы польскіх эмігрантаў у Лёндане): „Адбудова Польшчы зьяўляецца неабходнай для двух народаў: для немцаў і для саміх расійцаў“. Такім чынам тут ужо няма супроцьстаўленьня Эўропы і Польшчы—Расіі, Польшча ўжо патрэбна ня толькі для эўрапейскай і асабліва нямецкай дэмакратыі, але аднолькава і для Расіі.

Яшчэ далей аднак ідуць тварцы навуковага сацыялізму ў лісьце, пасланым да польскіх сацыялістых у 1880 г. з прычыны сьвяткаваньня гадавіны ліс'тападаўскага паўстаньня ў Жэневе, даводзячы, што барацьба палякаў „павінна зьліцца з імкненьнямі нашых расійскіх братоў“. Як бачым, польская справа ў поглядах Маркса і Энгельса зьліваецца ўжо са справай расійскай рэвалюцыі.

Нарэшце, у публічным выступленьні Энгельса (ужо пасьля сьмерці Маркса). У 1898 г. у яго ўступе да „Камуністычнага Маніфэсту“, маем апошні радыкальны паварот у поглядах на польскую справу. Сапраўды Энгельс у гэтай прадмове ўспамінае ізноў рэвалюцыйную ролю паўстанчай шляхты ў мінулым, у адносінах да Эўропы пішучы, што Польшча „ад 1792 г. зрабіла для справы рэвалюцыі больш“, чымся Італія, Нямеччына і Вэнгрыя, але далей піша: „шляхта (польская) не патрапіла ані захаваць, ані атрымаць незалежнасьці; для буржуазіі зьяўляецца яна сёньня, прынамсі, чужой. Можа яна быць здабыта толькі маладым польскім пралетарыятам, у яго руках зьяўляецца яна бясьпечнай“.

Калі ўспомнім, што ў 1847 г. у самым „Камуністычным Маніфэсьце“ Маркс і Энгельс сказалі, што камуністы падтрымліваюць у Польшчы партыю, якая „ў аграрнай рэвалюцыі бачыць умовы здабыцьця народнай незалежнасьці“, што і пазьней ня раз адзначалі, нагул рэвалюцыйна-дэмакратычны характар паўстанчага руху ў самой Польшчы, а не толькі сярод эміграцыі, то ў вышэй сказаных словах прадмовы Энгельса, у яго сьцьвярджэньні, што шляхта не патрапіла ані захаваць, ані здабыць незалежнасьці маем сапраўды сьцьверджаньне гістарычнага банкруцтва шляхты, якая аграрнай рэвалюцыі, рэвалюцыі дэмакратычнай выклікаць не патрапіла, гэтай рэвалюцыі якую мелі на ўвазе Маркс і Энгельс і якая была ўмовай атрыманьня Польшчай незалежнасьці.

Няма ў гэтым нічога дзіўнага, што Энгельс так пісаў пасьля практыкі і вынікаў усіх шляхоцкіх паўстаньняў, тым больш што ўжо даўней Маркс і Энгельс мелі на гэтым пункце сумненьне і крытычныя погляды, якіх публічна ня выказвалі, але паведамлялі сабе ўзаемна ў лістох, як аб гэтым сьведчыць выданьне іх карэспандэнцыі. (Brietwechsel).

Так, напрыклад, у лісьце ад 23 мая 1851 г. Энгельс пісаў Марксу між іншым:

„Чымся больш разважаю над гісторыяй, тым больш робіцца для мяне ясна, што палякі зьяўляюцца nation foutue (народам ужо да нічога), які толькі датуль можа служыць за прыладу, пакуль сама Расія ня будзе захоплена вірам аграрнай рэвалюцыі. Ад гэтага моманту Польшча ўжо ня будзе мець ніякай падставы існаваньня...

„На шчасьце ў Новай Рэйнскай Газэце (якую рэдагаваў Маркс і Энгельс у часе рэвалюцыі 1848-9 г. А. В) ня прынялі мы адносна Польшчы ніякіх іншых пазытыўных абавязкаў, апрача абавязку няўхільнага яе адбудаваньня ў належных граніцах—і то пад умовай, (правядзеньня ў ёй) аграрнай рэвалюцыі. Я пераконаны, што гэта рэвалюцыя цалкам адбудзецца раней у Расіі, чымся ў Польшчы, дзякуючы нацыянальнаму характару і больш разьвінутым буржуазным элемэнтам Расіі. Што значыць Варшава і Кракаў у адносінах да Пецярбургу, Масквы, Адэсы і г. д. і г. д!“

Як даслоўна спраўдзілася гэтае прароцтва, што аграрная рэвалюцыя адбудзецца раней ў Расіі, чымся ў Польшчы?

Кіраўнік Інстытуту Маркса і Энгельса тав. Разанаў, які ў кніжцы пад назвай „Маркс і Энгельс аб польскім пытаньні „сабраў усе іх погляды аб гэтай справе падаўшы вялікую частку вышэй паказанага лісту дадае: „але і пазьней паўставала ў думках Маркса і Энгельса сумненьне наконт правільнасьці іх старых поглядаў. Каб яе вырашыць, трэба вывучыць грунтоўна польскае пытаньне“.

### *3. Крытыка польскіх дэмакратаў*

Паміж сьцьверджаньнем Энгельса ад 1851г., што аграрная рэвалюцыя адбудзецца раней у Расіі, чымся ў Польшчы і яго сьцьверджаньнем банкруцтва шляхты на арэне адшуканьня незалежнасьці (1892 г.) існуе беспасрэдная, блізкая сувязь, якую некалькі год пасьля Роза Люксэмбург ахарактарызавала як унутраныя супярэчнасьці польскіх паўстаньняў. На чале гэтых паўстаньняў стаяла шляхта, а посьпех паўстаньня вымагаў аграрнай рэвалюцыі, гэта значыць, рэвалюцыі супроць шляхты. Маркс і Энгельс ставілі гэта як умову адбудаваньня Польшчы. Але што азначае аграрная рэвалюцыя? Уся гістарычная практыка—сялянскія войны, Хмяльніцкі, Пугачоў, Вялікая Француская Рэвалюцыя, бунт Шэлі ў Галіцыі, сялянская рэвалюцыя ў Расіі ў 1905, 1917-18 г., сялянскія бунты ў Заходняй Беларусі супроць польскай шляхты ў 1924-25 г. і г. д. і т. п.—паказваюць, што аграрная рэвалюцыя гэта: падпальваньне маёнткаў, забойства шляхты і г. п. брыдкія, зусім не рамантычныя рэчы.

З гэтых супярэчнасьцяй узьнікалі супярэчнасьці ў лягеры самых шляхэцкіх паўстанцаў, якія вялі да больш вострай крытыкі і сутычак. Маркс і Энгельс у сваіх публічных выступленьнях ня лічылі патрэбным крытыкаваць польскія паўстаньні. Гэтыя паўстаньні выканалі сваю ўнутраную рэвалюцыйную ролю, гэта значыць сваю ролю шчыта эўрапейскай дэмакратыі супроць царскай Расіі нават тады, калі-б былі апэрацыямі чыста мілітарнымі, ня грознымі для панаваньня шляхты, не зьвязанымі з усялякімі дэмакратычна-рэвалюцыйнымі лёзунгамі, як гэта было ў паўстаньні 1830-31 г. Наадварот, яны павінны былі падтрымліваць гэтыя паўстаньні зьвязваць іх з дэмакратычным сацыялістычным рухам, ахутваць яе адзнакай дэмакратыі, бо гэтыя паўстаньні і адбудаваньне Польшчы былі зьвязаны з імкненьнямі да разбурэньня палітычна-дзяржаўнага ладу ва ўсёй тагачаснай Эўропе, незалежна ад таго, які сацыяльны характар мелі паўстаньні ў самой Польшчы. І тым больш павінны

былі падтрымліваць як паўстаньне, якое абвяшчала лёзунгі дэмакратыі, так асабліва тую партыю сярод паўстанцаў, якая ішла найдалей у справе сялянскай рэвалюцыі. Калі тав. Ясінскі *сёньня* лічыць, што ня можна крытыкаваць польскіх паўстаньняў, ані выкрываць іх клясава-шляхоцкага характару дзеля таго, *што тады* Маркс і Энгельс ахутвалі іх знакам дэмакратыі і сваёй публічнай сымпатыяй, то даказвае толькі, што слаба яшчэ ён умее апэрыраваць марксысцкім мэтадам.

Але тое, чаго *сёньня* яшчэ досыць т. Ясінскаму, не магло ўжо *тады* быць выстарчальным для польскіх дэмакратаў, якія хіба-ж не маглі *і не павінны* былі глядзець на паўстаньне вачыма Маркса і Энгельса з пункту гледжаньня значэньня паўстаньняў для рэвалюцыі *заграніцай*. Чымся больш шчырымі былі яны дэмакратамі, чымся больш блізка стаялі да народных мас, чымся больш зьвязвалі лёс Польшчы з лёсам сялян, як кс. Сьцегенны, як грамада „Польскі Люд" і г. п., тым больш жадалі аграрнай рэвалюцыі *ў самой Польшчы*, тым мацней, тым больш палка крытыкавалі паўстаньні.

Ужо Касьцюшка і сучасныя яму шляхоцкія дэмакраты мелі сьвядомасьць унутраных супярэчнасьцяў паўстаньняў. Вось як Кожан, на падставе дакумантальных крыніц, перадае гутарку Касьцюшкі з І. Осолінскім, якому даваў інструкцыі для выкананьня дыплёматычнай місіі пры Венскім двары:

Касьцюшка „баіцца найбольш каб Расія і Прусія не заблытвалі эўрапейскай думкі, даводзячы, што польскія паўстаньні зьяўляюцца падобнымі да францускай рэвалюцыі. Пры цемры, нэндзы і азьвярэньні сялян ў Польшчы, мела-б падставу боязкасьць, што высунуць свае жаданьні і надзею так далёка, як у Францыі, а зусім беспадстаўнай была-б думка, што рэвалюцыя, якую выклікаў чужацкі ўціск *і ў якой першымі апякунамі зьяўляецца шляхта, можа імкнуцца да такога становішча, якое б зьнішчыла ўласны быт правадыроў* (падкрэсьленьне А. В.). Узбраеньне сялянскіх мас сталася неабходным толькі дзякуючы нязьмернай перавазе непрыяцельскіх сіл —гэтае самае, нарэшце, рабіў цар у Нідэрляндах" і г. д.

Паўстаньне 1831 г. крытыкавалі Прондзынскі і Бем, крытыкавалі яе тагочасныя гісторыкі і радыкалы, як Махнацкі і Мірaслаўскі, „дзеля таго—як пісаў Ліманоўскі—што не адважыліся (правадыры) на сьмелае пасоўваньне, баючыся народнага руху". Вось, шчырыя дэмакраты крытыкавалі нават так востра, што спакусіўся гэтым Балеслаў Ліманоўскі, як цяпер спакушаецца крытыкай тав. Ясінскі.

У сваёй „Гісторыя Польскай Дэмакратыі" Б. Ліманоўскі апавядае, як гэта Цэнтралізацыя Дэмакратычнага Таварыства (на эміграцыі) паставіла цэлы шэраг пытаньняў праграмнага і тактычнага характару, на якія адказвалі сэкцыі і адзіночныя сябры і вось як піша:

„Пытаньне шостае: што зьяўляецца прычынай дарэмнасьці дасюлешніх патугаў за адшуканьне незалежнага існаваньня Польшчы і якія сродкі для гэтай мэты сапраўды карысныя трэба прыняць на будучыну?—выклікала *вострую крытыку*—і скажам—вельмі часта несправядлівую, мінулых патугаў вызваленьня з-пад чужога ярма. Цэнтралізацыя, падводзячы вынік гэтым думкам, значна іх паслабіла і спрабавала вярнуць да належнай меркі. Не асудзіла яна *так бязьлітасна*, як некаторыя сэкцыі ні Канстытуцыі 3 мая, ні 4-гадовага Сойму, ні Касьцюшкаўскага паўстаньня".

Можна сабе ўявіць якой вострай і бязьлітаснай была тая крытыка „некаторых сэкцый" паколькі б'е яна так моцна нават сацыялістага з ППС Балеслава Ліманоўскага!

А тав. Ясінскі? Нацыянальны сацыялісты Ліманоўскі абураўся на вострую крытыку паўстаньняў шмат гадоў перад тым, калі ня было яшчэ Вялікай Рэвалюцыі пралетарыяту ў Расіі, а Польшча аставалася прыгнечанай трыма акупанцкімі манархіямі. Тав. Ясінскі абураецца цяпер, у пэрыядзе, калі непадлеглая фашыстаўская Польшча, пагражае яго пралетарскай Бацькаўшчыне, Савецкаму Саюзу! І як ён абураецца! прашу паслухаць:

„Крытыка т. Зьдзярскага“ зьяўляецца шкоднай тым больш, што ствараючы фальшывую праўдападобнасьць, нібы-та камуністы хоць укосна спрабавалі *бараніць палітыку Мураўёва-Вешацеля*“ і г. д.

Спрабавалі *бараніць палітыку Мураўёва-Вешацеля!!* (праз фальшывую праўдападобнасьць, хоць-бы ўкосна).

Мы не належым да тых, што баяцца моцных слоў і напэўна тав. Зьдзярскі ня будзе скардзіцца на гэта, хоць павінны прызнацца, што абвінавачаньне зьяўляецца такім нязвычайным, што па адрасу таварышоў яшчэ падобнага моцнага абвінавачаньня мы ня чулі. Цікавіць нас аднак ня моцнае слова, але толькі тое, што за кім хаваецца. А хаваецца за імі прэтэнзія тав. Ясінскага, што т. Зьдзярскі ня хоча верыць ва ўдзел шмат сялян у паўстаньні, праўдзівей, лічыць разам з намі, што сярод гэтых сялян было шмат дворскай службы, парабкоў і лёкаяў, якія ішлі паводлуг жаданьня паноў, і ня надта абураецца на тых польскіх і беларускіх сялян, якія выступалі супроць паноў. Такім чынам, зварочваемся ізноў, але на гэты раз ужо ў 1928 г. і г. д.—да тэй далікатнай справы ўнутраных супярэчнасьцяй паўстаньня, да справы аграрнай рэвалюцыі, якая павінна была пачаць і якой не магло пачаць паўстаньне 1863 г., як і паўстаньне 1846 г. Вось у нацыянальнай патрыятычнай літаратуры аб гэтым далікатным пытаньні можна гаварыць толькі тады, калі ідзе гутарка аб Бартошу Главацкім і іншых сялянах, якія ішлі ў паўстаньне (не зьмяняючы ні на волас шляхоцкага характару паўстаньня). У той самы час аб сялянах, якія, згодна жаданьняў Маркса і Энгельса, а таксама з надзеямі шчырых польскіх дэмакратаў з пралетарска-жаўнерскага лягеру, якім была грамада „Люд Польскі“, ішлі да аграрнай рэвалюцыі, гэта значыць, палілі маёнткі і забівалі паўстанчую шляхту (Галіцыйскія забойствы 1846 г.),—аб такіх сялянах можна гаварыць толькі як аб прыладзе захопніцкіх урадаў, ня маючых аніякай клясавай прычыны і аніякай гістарычнай падставы паліць маёнткі і забіваць шляхту.

Паглядзім, як да гэтай справы адносяцца камуністыя. Тав. Домбаль у 1921 г. напісаў брашурку пад назвай: „Якой Польшчы хочаш селянін?“. Вось аўтар гэтай брашуркі, не баючыся абвінавачаньня, нібыта „меў ствараць фальшывую праўдападобнасьць, спрабуючы ўкосна бараніць палітыку аўстрыйскіх Мураўёвых-Вешацелей“, ня толькі апраўдвае бунт Шолі, але нават ахутвае яго пэўнымі адзнакамі гістарычнай справядлівасьці. Ці добра зрабіў? Нам, здаецца, што так, бо калі ў часе няволі Польшчы можна было яшчэ ў пэўнай ступені апраўдваць нацыянальную літаратуру на тэму 1846 г. (у кожным выпадку ня мог гэтую літаратуру апраўдваць польскі марксысты), то ў 1921 г. трэба было і цяпер ўзьнесьці да годнасьці рэвалюцыйнай традыцыі галіцыйскія забойствы 1846 г.

Так падыйшоў да гэтае справы тав. Домбаль. Але т. Домбаль быў ужо рэвалюцыйным селянінам перш чымся стаў камуністым. А як падыходзіць да гэтых спраў дробна-мяшчанскі інтэлігент?

У 1925 г. калі ў Заходняй Беларусі ў часе партызанскай вайны сяляне палілі двары і стралялі ў паноў, Домбскі напісаў праклямацыю, у якой бачыў у гэтым руху не аграрную рэвалюцыю, але „анархію“,

„бандытызм“, „адзічаньне“. Гэты нібыта рэвалюцыянэр не сароміўся нават таго, што яго погляд на гэты рух ішоў побач з буржуазнымі нацыянальнымі паклёпамі на беларускіх сялян паўстанцаў!

Так захоўваецца дробна-мяшчанскі інтэлігент.

## V. Пад варожым уплывам дробна-мяшчанства

### *I. Чужы мэтад*

Згодна са сваёй „пэдагагічнай мэтай“, каб зьменшыць працу „унівэрсытэцкай моладзі“ доўгім адшукваньнем найбольш характэрных дакумантаў, выдаўцы памянёнай кніжкі дадалі яшчэ да жандармскіх матар'ялаў адозву Цэнтральнага Нацыянальнага Камітэту ад 22 студзеня 1863 г., якая заклікала да аружжа „народ Польшчы, Літвы і Беларусі“ таксама адозву Правінцыяльнага Часовага Ўраду на Літве і Беларусі, якая між іншым казала, што „гэта польская зямля, а не маскоўская“.

Дзіўна, што выдаўцы гэтай кніжкі не дадалі яшчэ ўсяго, што казалі і пісалі Маркс і Энгельс аб неабходнасьці адбудаваньня Польшчы ў межах 1772 г. Было-бы гэта згодным з іх „пэдагагічнай мэтай“, зьмяншаючы працу моладзі ў адшуканьні дакумантаў, каб даведацца пра погляды тварцоў навуковага сацыялізму на 1863 г. Аднак праўда? Бо хто-ж бы даказаў, як урачыста сьцьвярджае тав. Ясінскі, „што погляды Маркса і Энгельса зьяўляюцца памылковымі“? Аб гэтым відаць ніхто ня меў-бы адвагі даводзіць. Наадварот, кожны з нас сьцьвердзіў-бы, што мелі яны такія погляды і што гэтыя погляды былі правільнымі. А аўтар францускага ўступу мог бы палічыць у гэтым уступе сабе за гонар, што яго „пэдагагічная мэта“ заключаецца ў тым, каб падаваць моладзі гатовыя гістарычныя дакуманты ў марксысцкім асьвятленьні.

Тав. Ясінскі мае адвагу спасылацца таксама на тав. Леніна. Не зразумеў ён аднак з Леніна найважнейшай рэчы, менавіта, што як марксысты Ленін глядзеў на гэтую справу з дыялектычна-матар'ялістычнага пункту гледжаньня. Гэта значыць, у залежнасьці ад гістарычных умоў, ад умоў часу і мейсца, і пісаў у 1914 г.:

„Вядома, што Маркс і Энгельс лічылі за бязумоўны абавязак для ўсёй заходня-эўрапейскай дэмакратыі, а тым больш для сацыялдэмакратыі, дзейнае падтрыманьне прынцыпу незалежнасьці Польшчы. Для 4-га і 6-га пэрыяду дзесятка год мінулага стагодзьдзя, пэрыяду буржуазнай рэвалюцыі Аўстрыі і Нямеччыны, пэрыяду“ сялянскай рэформы ў Расіі пазыцыя гэта была пазыцыяй найбольш правільнай, таксама адзінай пасьлядоўна-дэмакратычнай і пралетарскай. Пакуль народныя масы Расіі і большасьці славянскіх краін спалі глыбокім сном, пакуль у гэтых краінах *ня было* самастойных, масавых дэмакратычных рухаў, пакуль *шляхоцкі* вызваленчы рух у Польшчы меў вялізнае значэньне з пункту погляду дэмакратыі ня толькі агульнарасійскай, ня толькі агульна славянскай, але і агульна-эўропейскай.

„Але калі гэтая пазыцыя Маркса была бязумоўна правільнай для таго пэрыяду, то перастала быць правільнай для 20-га стагодзьдзя. Самастойныя дэмакратычныя рухі і самастойны пралетарскі рух абудзіліся ў большасьці славянскіх краін і нават у аднэй з найбольш адсталых славянскіх краін—у Расіі. Шляхецкая Польшча зьнікла і ўступіла мейсца Польшчы капіталістычнай. У гэтых умовах Польшча не магла ня страціць свайго *выключнага* рэвалюцыйнага значэньня.

„Калі ППС спрабавала ў 1896 г. (на Лёнданскім Кангрэсе Інтэрнацыяналу. А. В.) утрымаць пазыцыю Маркса з іншага *пэрыяду*, азначала гэта ўжо выкарыстаньне *літары* марксызму супроць *сэнсу* марксызму“...

Чуеце т. т. Ясінскі і Гэльтман, як на пачатку 20-га стагодзьдзя, але *перад бальшавіцкай рэвалюцыяй у 1917 г.* патрабавалася памарксыцку, паленінску падаваць „унівэрсытэцкай моладзі“ г. зн. рабочай і сялянскай моладзі для „пэдагагічных мэтаў“ гістарычныя факты з „*шляхоцкага*“ (падкрэсьленьне Леніна) вызваленчага руху ў Польшчы?“

Што найбольш важна, цяпер не 1914 г.,—мы знаходзімся ня перад імпэрыялістычнай вайной 1914-1918 г., але пасьля Кастрычнікавай рэвалюцыі, маем ня прыгнечаную Польшчу, але Польшчу незалежную, якая ўціскае іншыя народы, маем не царызм, але Саюз *Сацыялістычных* Савецкіх Рэспублік, а ў гэтым Саюзе—*Сацыялістычную Беларускую Рэспубліку*. Што з гэтага выцякае для марксыстых, для ленінцаў? З гэтага выцякае, згодна з нашым дыялектычным матар'ялістычным мэтадам, што калі ў 1896 і 1914 г., перад Кастрычнікавай рэвалюцыяй трэба было на „шляхоцкі“ рух у Польшчы глядзець інакш як даўней, у часы Маркса і Энгельса, то цяпер, пасьля Кастрычнікавай рэвалюцыі, трэба на польскія справы глядзець, дзеля пэўных прычын, інакш чымся ў гады 1896-1914.

Напрыклад. У 1898 г. Роза Люксэмбург напісала вядомы ўжо нашым чытачом артыкул аб Міцкевічу. У гэтым артыкуле ўзьнімае яна і перадае ва ўласнасьць пралетарыяту *культуру нацыялізму*, дэмакратычным прадстаўнікам якога быў Адам Міцкевіч. Чаму? Бо побач вялікай пекнаты паэзіі была ў ім магутнасьць ахвярнасьці, магутнасьць узьлёту да барацьбы з уціскам. Ці Роза Люксэмбург мела *тады* слушнасьць? Бязумоўна. Бо Польшча тады была прыгнечана, бо тое, што ў Міцкевічу было для нас найбольш каштоўным, было забаронена царызмам, прасьледвалася і г. п. Аб гэтым баку нацыяналізму Ленін у тым-жа 1914 г. пісаў:

„*У кожным* буржуазным нацыяналізьме прыгнечанага народу ёсьць агульна-дэмакратычны зьмест, накіраваны супроць уціску і гэты вось зьмест мы *бязумоўна* падтрымліваем!.. (падкрэсьленьне Леніна).

А цяпер? Ці Роза Люксэмбург, як марксыстка магла ў 1928 г. напісаць гэты самы артыкул аб Адаме Міцкевічу, што ў 1898 г.? Відавочна не. Чаму?

Бо цяпер мы маем ня Польшчу прыгнечаную, але Польшчу, якая ўціскае Заходнюю Беларусь. Бо цяпер мы маем не царызм, але Беларускую Сацыялістычную Рэспубліку. Бо цяпер шляхоцкая аповесьць аб „Пану Тадэушу“, якая разыгрываецца ў Навагрудчыне (а значыцца на Беларусі), мае значэньне твору накіраванага ня супроць царызму, але супроць Савецкай Беларусі, бо цяпер магутны патрыятычны сум Міцкевіча да Літвы перастаў быць зложаданьнем царызму і стаўся выказам польскага імпэрыялізму і т. д. і т. п. Тое, што 30 год таму назад магло яшчэ мець дэмакратычна-рэвалюцыйнае значэньне, гэта сёньня стала рэакцыйным. І Роза Люксэмбург павінна была-б цяпер падкрэсьліць *рэакцыйны* бок Міцкевіча больш вострым спосабам, чымся зрабіла ў сваім артыкуле аб Талстым, цяпер магла-бы напісаць другі артыкул аб Міцкевічу для пэдагагічных мэтаў КПП. А ці-ж пэдагагічная мэта т. Гэльтмана на Беларусі магла-б цяпер быць інакшай?

Не азначае гэта, відавочна, што трэба ад навучаючайся рабочай і сялянскай моладзі хаваць артыкул Розы Люксэмбург аб Міцкевічу

1898 г., або погляды Маркса і Энгельса на неабходнасьць адбудаваньня Польшчы ў межах 1772 г., або дакуманты, зьмешчаныя ў кніжцы „1863 г. на Меншчыне“ і г. д. Але справа ў тым, што погляды, якімі т. Ясінскі і менскія таварышы ўпрыгожваюць гэтую кніжку і само выданьне гэтай кніжкі, а таксама ўсе спрэчкі аб Міцкевічу ня маюць нічога супольнага з марксызмам. Наадварот, у даных канкрэтных гістарычных умовах сыгналізуюць яны пэўныя сацыяльныя і палітычныя тэндэнцыі, якіх гэтыя таварышы зусім сабе не ўяўляюць, і якія зьяўляюцца выказам інтарэсаў пэўных чужых нам і варожых пластоў і кляс, азначаюць небясьпеку, да якой трэба прыглядзецца.

### *Небясьпечны ўхіл*

У Польшчы маем дыктатуру Пілсудзкага. Пад верхаводзтвам гэтай дыктатуры, згодна з яе капіталістычным характарам расьце імпэрыялістычная плынь, заахвочваемая звонку капіталістычным сьветам. У самой Польшчы гэтая плынь знаходзіць між іншым, свой публіцыстычны і друкаваны выказ у сьцьверджаньнях, што Польшча яшчэ не адбудавана цалкам, яшчэ не аб'яднана, няма Польшчы бяз Літвы і Русі (г. зн. бяз Літвы, Беларусі і Украіны), Польшча можа паўстаць толькі ў фэдэрацыі з Літвой, Беларусьсю і Украінай і г. д. і г. п.

Польскі капіталізм узьнік і разьвіваўся ў супярэчнасьцях да даўных народных рухаў, быў падпорай панаваньня ў самой Польшчы дзяржаў, якія падзялілі Польшчу, быў менавіта найлепшай падпорай панаваньня царызму пад расійскай акупацыяй, дзе рос і ўзмацняўся ў арганічнай сувязі з Расіяй. Ужо Энгельс у 1892 г. заўважыў, што новачасная польская буржуазія зьяўляецца чужой у адносінах да нацыянальнай справы. Дыялектычна гістарычнае разьвіцьцё перавярнула тут усё дагары нагамі. Цяпер буйны прамысловы, гандлёвы і грашовы капітал у сувязі з зямельнымі магнатамі стаўся піанэрам руху, які мае мэтай адбудаваць Польшчу найменш у граніцах 1772 г. або Польшчу „ад мора да мора“ ў форме фэдэрацыі з Літвой, Беларусьсю і Украінай. Таму-ж гэты капітал зараз-жа пасьля маёвага перавароту 1926 г. так адразу, амаль бяз рэшткі зьядняўся з дыктатурай Пілсудзкага, якая ўзьнікла як фашыстаўская прылада капіталу.

У гэтым заключаецца сталая пагроза вайны супроць СССР. Фашысцкая Польшча зьяўляецца беспасрэднай пагрозай для дзьвёх нашых саюзных рэспублік, для Савецкай Беларусі і Савецкай Украіны. Вось які знадворны фон, на які трэба пакласьці артыкул т. Гэльтмана аб Міцкевічу (наколькі інакшым ён зьяўляецца ад фону, на якім узьнік артыкул Р. Люксэмбург!), кніжку аб „1863 г. на Меншчыне“ і погляды т. Ясінскага.

Унутраны фон заключаецца ў тым, што на Беларусі існуюць пласты нездаволеныя савецкай уладай, варожыя нам, з марамі аб прыходзе палякаў, польскага войска, якое вызваліла-б іх ад дыктатуры пралетарыяту: гэтымі пластамі зьяўляецца беларускае кулацтва, польска-рэакцыйнае дробна-мяшчанства і каталіцкі клір. Імкненьне гэтых пластоў зьліваецца з імкненьнямі польскіх капіталістаў да межаў 1772 г., якія з гэтай краіны стварылі-б ізноў „польскую краіну“, адарваную ад „Масквы“.

Гэтыя тэндэнцыі ў Савецкай Украіне знашлі свой адбітак у ідэалёгіі Шумскага, у лёзунгу арыэнтацыі на культуру „цівілізаванага захаду“. А ў Беларусі?

Ці можна сумнявацца ў тым, што польскі фашызм узмацняе, для сваёй атакі на Беларусь, падрыхтоўку таксама і ў галіне культурнай?

ці можна сумнявацца ў тым, што спрабуе ён пашыраць сваю прапаганду,—набываць сабе пэўную частку розумаў, падрыхтоўваць сабе падатны грунт, між іншым, сярод „унівэрсытэцкай моладзі“. Відавочна ня можа гэтага рабіць такім самым спосабам, як у Польшчы, шляхам агіднай кампаніі супроць дыктатуры пралетарыяту ў часопісях, брашурах і г. п. Які-ж павінен быць кірунак гэтай прапаганды, якая павінна падрыхтаваць духоўны грунт для польскага нападу на Беларусь? Кірунак уласна такі самы, які мае кніжка „Паўстаньне 1863 г. на Меншчыне“: ахутаць сымпатыяй, адсьвежыць лёзунг: „прэч з Масквой!“ абдурыць розумы гэройствам паўстанцаў, якія змагаліся за фэдэрацыю Польшчы, Літвы і Русі, даць гістарычнае апраўданьне паходу Пілсудзкага на Менск (і Кіеў). Вось якой „пэдагагічнай мэце служыць аб'ектыўна, незалежна ад суб'ектыўнай волі аўтараў, выданьне такога тыпу, як гэтая кніжка. Трэба быць аб'ектыўным, як найбольш аб'ектыўным, даць толькі сухія матар'ялы, самыя матар'ялы! Напісаць уступ, што гэта для палягчэньня працы унівэрсытэцкай моладзі. Дадаць дзьве адозвы паўстанцаў, якія паагітуюць за мэты так цяпер блізкія Пілсудзкаму: „прэч з Масквой! Польшча гэта край не маскоўскі! Народзе Польшчы, Літвы, Русі! Толькі бяз жаднага гістарычнага высьвятленьня! Марксысцкае высьвятленьне паказала б, што рэвалюцыйнае ў 1863 г. зьяўляецца контр-рэвалюцыйным у 1927 г. Дык бяз жаднага гістарычнага высьвятленьня, бяз жаднай крытыкі! І тады, жадаючы або не жадаючы служыць „пэдагагічнай мэце“, якая зьяўляецца мэтай Пілсудзкага. А калі хто спрабуе гэтую кніжку, гэты такі „аб'ектыўны“, такі „навуковы“ дакумант крытыкаваць і нават сказаць, што гэта „непатрэбная кніжка“ (замест сказаць: небясьпечная, шкодная кніжка для унівэрсытэцкай моладзі), дык знойдзецца які-небудзь бязглузды польскі бальшавік,—а-ля Ясінскі, і крычыць: „прэч ад крытыкі! гэта сьвятое! гэта недатыкальнае! Вось-жа Маркс, Энгельс, Ленін і г. д.

А калі яшчэ дадаць, што Міцкевіч быў сацыялістым! Сацыялісты Міцкевіч надасьць „суму“ Пілсудзкага, суму польскіх капіталістаў па межах 1772 г., па фэдэрацыі „Польшчы, Літвы і Русі“, бляск свайго ўласнага суму да „Літвы, айчыны маёй“, апраменіць яе сваёй цудоўнай паэзіяй, сваім вялікім сэрцам.

Не патрабуем дадаваць, што ані т. Гэльтман, ні т. Ясінскі, ні выдаўцы гэтай кніжкі ня дзейнічалі па загаду ці даручэньні ворагаў партыі і савецкай улады. Зьяўляюцца яны проста бязьведнымі, несьвядомымі прыладамі таго дробна мяшчанскага напору, які зрабіў з іх польскае выданьне украінскай шумскіяды.

---

С. П. Токмачев

# О Сельско-Хозяйственной Академии

Белорусская с.-х. Академия в Горках состоит из 4-х факультетов: 1) агрономического, 2) лесного, 3) землеустроительного, 4) мелиоративного.

На 1-е октября 1927 года в Академии числится 1417 студентов и 120 научных работников. Бюджет Академии в этом году составляет 741293 руб. по текущим расходам и 75000 р. по строительству, или в сумме—816293 р.

Если принять в среднем государственные расходы по содержанию одного с.-х. Техникума в 40000 р., при 6-ти преподавателях и 90—100 учащихся, то с.-х. Академия оказывается равной 20-ти средним с.-х. учебным заведениям.

Невольно возникает мысль—нужно ли для сравнительно небольшой Республики столь громоздкое и дорого стоющее учебное заведение и не слишком ли оно обременяет государственный бюджет и вызывается ли его существование действительными потребностями сельского хозяйства.

Для БССР, сельское хозяйство которой представляет своеобразные черты и которое переживает период реконструкции, т. е. коренной ломки старых хозяйственных форм—высшее с.-х. учебное заведение, повидимому, нужно, но не в той форме, в какой оно существует.

Прежде всего вызывает сомнение *целесообразность структуры Академии*, в частности *существование мелиоративного и землеустроительного* факультетов.

Как бы не развивались у нас землеустройство и мелиорация, но соответствующие специалисты высшей квалификации потребуются в очень ограниченном числе. Мелиоративное дело не пострадает, если непосредственными производителями работ будут опытные гидротехники со средним образованием, а количество инженер-гидротехников будет ограничено числом потребных окружных мелиораторов и центрального аппарата НКЗ. При 8-ми округах в Республике для Окрземотделов нужно максимум 16 инженеров, при соответствующем штате техников на районах. Если определить потребность центрального ведомства в такую же цифру, то для Белоруссии достаточно 32 инженер-гидротехника. При 5% амортизации ежегодное пополнение инженерно-гидротехнического состава выразится не более 2-х лиц. Академия же будет давать следуюшее количество инженеров: в 1927 году—28, в 1928 г.—33, в 1929 г.—23, в 1930 г.—14, а в среднем—24.

Итак при ежегодной потребности в 2-х специалистах высшей квалификации для пополнения кадра Академия будет давать 24 инженера (не считая параллельных выпусков культур-техников). Такое резкое несоответствие указывает на то, что выпускаемых из Академии инженер-гидротехников придется использовать на технических должностях, носящих исполнительный характер. Но целесообразно ли использовать инженерный персонал для работ по нивеллировке, непосредственному надзору за простейшими земляными работами или даже

для проектирования несложных осушительных работ на небольших площадях, если все эти работы с успехом выполнит кадр техников под общим наблюдением и контролем инженера. Специалисты высшей квалификации нужны лишь в работах, носящих направляющий, организационный характер, там, где требуется достаточно глубокое научно-теоретическое обоснование. Применительно к мелиоративному делу это будут: 1) изыскания и исследования, 2) построение перспективных планов, 2) составление сложных проектов в крупном масштабе, 4) поверка, контроль и наблюдение за работой массового технического персонала и управление его деятельностью.

Развитие мелиорации, в каковых большую долю участия должно принять на себя государство (из 19-ти миллионов на госбюджет приходится за пятилетие около 10-ти миллионов), будет зависеть всецело от реальных возможностей общегосударственных финансов. Все еще остающаяся неопределенность проблемы внешнего рынка, необходимость крупных вложений в тяжелую индустрию, слабый темп эволюции мелкого распыленного крестьянского хозяйства едва ли позволят фактически направить столь значительные средства на государственные мелиорации, возвращающие затраты весьма медленно. Как следствие этого возможен более слабый темп развития мелиорации, а значит и обострение перепроизводства технических сил.

С точки зрения обще-государственных средств перепроизводство технических сил в БССР не составляет еще особо отрицательного явления, если излишний технический персонал можно перебросить в соседнюю Советскую Республику, напр. в РСФСР. Это, конечно, так. Но есть ли смысл подготовлять в Белоруссии для РСФСР инженерно-гидротехнический персонал, когда в Москве имеется Тимирязевская Академия с отлично оборудованным мелиоративным факультетом, Конечно—нет, но есть смысл сделать обратное. Как выше сказано, для БССР нужно весьма незначительное количество инженер-мелиораторов при основном кадре гидротехников со средним образованием, количество, которое Республика всегда сможет получить из Москвы, путем командирования туда своих стипендиатов. Подготовка, даваемая студентам мелиоративного факультета Тимирязевской Академии, окажется выше сравнительно с Горками, благодаря более богатому оборудованию и более высоко-квалифицированному профессорскому персоналу в Москве. Крайняя бедность наша учеными специалистами-профессорами создает концентрацию их в больших городах, где они находят себе гораздо больший заработок (по совместительству в различных учреждениях), чем тот, который им может предложить одно учебное заведение, расположенное в глуши, хотя бы и практикующее систему повышенных ставок.

Горецкая Академия едва ли сможет привлечь действительно крупных ученых по узким специальностям. С этой стороны мелиоративный факультет в Горках перспектив не имеет. На гастролирующих же профессорах строить учебное заведение нельзя. *Поэтому существование мелиоративного факультета в составе Академии следовало бы признать излишним и приступить теперь же к постепенной его ликвидации, а часть затрачиваемых на него средств обратить на улучшение постановки в Белоруссии среднего гидротехнического образования и учреждение стипендиального фонда в Тимирязевской Академии для подготовки ежегодно нескольких инженер-гидротехников.*

Сказанное выше по отношению к мелиоративному факультету в значительной степени относится и к землеустроительному. Различие заключается лишь в том, что землеустройство будет развиваться более

быстрым темпом сравнительно с мелиорацией, а также в том, что в землеустройстве вовсе не нужны особые специалисты землеустроители.

Землеустроительный процесс (в широком смысле этого слова) должен начинаться организационной деятельностью агронома-экономиста (это сама по себе уже широкая специальность), технически он проводится землемером (другая специальность, имеющая совершенно иное обоснование) и, наконец, он получает окончательную санкцию в судебно-земельных органах (3-я специальность, имеющая юридические основы). Попытка об'единить в одном лице землеустроителя три вполне различных специальности: 1) агронома, 2) землемера и 3) юриста способна дать лишь отрицательные результаты. Эта энциклопедичность землеустроителя отразилась, как нельзя более ясно на учебном плане землеустроительного факультета с-х. Академии. Все предметы этого факультета можно разбить на следующие группы.

**I. Обще-образовательные знания**

1. Высшая математика
2. Физика
3. Ботаника
4. Общая химия
5. Белорусский язык
6. Иностранный язык
7. Военное дело
8. Полит. экономия
9. История партии
10. Исторический материализм

**II. Агрономические знания**

1. Кормодобывание и животнов.
2. Агрономическая бонитировка почв.
3. Основы общего и частного земледелия
4. С-х. экономия
5. Общая и земельная статистика
6. С-х и земельная таксация
7. Организация сельского хоз.
8. Аграрная политика и история земельных отношений
9. Экономика землеустройства
10. Организация землеустроительных работ и методы составления перспективных планов землеустройства (?)

**III. Землемерные знания**

1. Геодезия
2. Топографическое черчение
3. Землеустроительное проектирование
4. История землеустройства и переселения
5. Переселение и колонизация
6. Кадастр и земельная регистрация
7. Распланирование населенных мест при землеустройстве

**IV. Юридические знания**

1. Учение о праве и государстве
2. Земельное право и судебный процесс
3. Землеустроительный процесс и организация земельных установ
4. Землеустроительное право

**V. Лесоводственные знания**

1. Лесная таксация и лесоустройство

**VI. Инженерно-мелиоративн. зн.**

1. Механика и гидравлика
2. Геология с гидрогеологией
3. С-х мелиорации и водоснабж.
4. С-х. постройки и дороги

Итак шесть разнородных и чрезвычайно далеких друг от друга отраслей знания—по принципу всего по немногу и как следствие—ничего в результате, *в смысле какой-либо специальности.*

„Всезнайки"—тип бесполезный в практической жизни, т. к. поверхность никогда не составляла положительного качества практического работника. Наш пессимистический прогноз в данном случае не может быть обоснован фактами, т. к. достаточного опыта по применению подготовленных вышеуказанным путем землеустроителей мы еще не имеем. Однако к результатам этого опыта относимся скептически. Мы полагаем, что землеустройство настолько сложное мероприятие, что к выполнению его в целом всегда придется привлекать представителей нескольких специальностей и, главным образом, агронома, с работы коего начинается землеустройство и деятельностью которого оно заканчивается (организация новых хозяйственных форм на землеустроенных площадях).

Вместо создания особой землеустроительной специальности следовало бы в агрономических школах усилить экономический цикл путем введения в него вопросов, связанных с землеустройством и параллельно создать землемерные техникумы для подготовки *толковых землемеров-практиков, работающих в контакте с агрономом и под его ответственностью за общий успех землеустройства.*

*Землеустроительный же факультет с нашей точки зрения целесообразно было бы закрыть.*

Таким образом Академия *приводится к нормальному виду* в составе двух *факультетов—агрономического и лесного.*

Вопрос о лесном факультете временно следует оставить открытым, т. к. все зависеть будет от того, какое направление примет в ближайшие годы лесное хозяйство. Если оно попрежнему будет состоять в лесоэксплоатации, то, конечно, едва ли нужно для него значительное число специалистов с высшим образованием и лесной факультет окажется излишним в составе Академии. Напротив, если лесному хозяйству будет придан интенсивный уклон, т. е. будет приступлено к рациональному ведению лесного хозяйства, то с.-х. Академия могла бы послужить для этого дела выпуском необходимых лесоводов.

Что касается *агрономического факультета, то его нужно коренным образом реформировать. Основной недостаток постановки дела* в Академии заключается прежде всего в чрезвычайной многопредметности. *Агро-фак Академии имеет 30 кафедр, тогда как напр.* агрономическое отделение Киевского Политехнического Института (до военный период) обходилось, и довольно успешно, 20-ю кафедрами. Число же дисциплин, изучаемых на агро-факе Академии, выражается в еще большую цифру. Так Академия обязывает студента пройти следующие науки (секция растениеводства):

1) физика, 2) химия неорганическая, 3) зоология, 4) ботаника, 5) геодезия, 6) полит. экономия), 7) основы государственного и хозяйственного права, 8) высшая математика с вариационной статистикой, 9) белоруссоведение, 10) военные науки, 11) иностранный язык, 12) история ВКП, 13) химия органическая, 14) химия аналитическая, 15) метеорология и климатология, 16) геология с минералогией, 17) почвоведение, 18) микробиология, 19) анатомия и физиология домашних животных, 20) физиология растений, 21) с-х машиноведение, 22) исторический материализм, 23) *история евреев XIX века*, 24) агрономическая химия, 25) общее земледелие, 26) общая зоотехния, 27) с.-х. экономия, 28) с.-х. энтомология, 29) фитопатология, 30) садо-

водство и огородничество, 31) электрификация, 32) кооперация, 33) статистика, 34) частное земледелие, 35) частная зоотехния, 36) организация сельского хозяйства и счетоводства, 37) селекция и генетика, 38) опытное дело, 39) луговодство и культура болот, 40) льнотехника, 41) с.-х. и химическая технология, 42) аграрная политика и государственные мероприятия в области сельского хозяйства.

Итак в 4 года—42 научных дисциплины. *Этот учебный план, несомненно, гарантирует государству такого агронома, который для дела, для практики будет вовсе бесполезен.* К такому выводу приходится притти в особенности, если принять во внимание слабую подготовку поступающих в Академию студентов и крайнюю теоретичность построения профессорами своих учебных курсов. Положение отягчается еще более *господствующей в Академии лекционной системой преподавания*, при которой лектор имеет возможность изложить массу учебного материала, превращая учащихся в пассивных слушателей. Благодаря этому обязательные курсы превращаются в тысячи страниц, требующих от студентов чрезмерного напряжения. Эти книжные сведения, часто бесконечно-далекие от местной сельско-хоз. действительности, улетучиваются у студента сразу же после сдачи соответствующего зачета. В результате из учебного заведения, столь дорого стоющего стране, *выходят люди часто практически—беспомощные и физически надломленные больные.* Первое, что необходимо, сделать это—уменьшить число учебных предметов, соответственно и число кафедр. Так напр. группа ботаники в Академии представлена следующими кафедрами: 1) ботаника, 2) физиология растений, 3) фитопатология и микробиология. Вполне возможно уложиться в две кафедры—1) морфология и систематика растений и 2) физиология и микробиология. Точно также—зоологию и энтомологию без особого ущерба для дела можно об'единить в одну кафедру. При наличии в учебном плане отдельных предметов—почвоведения и общего земледелия ничем не оправдывается существование особого предмета—агрономической химии. Общее земледелие, частное земледелие, луговодство и культура болот, селекция и генетика легко об'единяются в две кафедры: 1) общего и 2) частного земледелия. Максимум в три кафедры, если даже выделить в особую дисциплину луговодство, целесообразность чего сомнительна. Трудно мотивировать идею выделения в особую кафедру статистики. В с-х учебном заведении—этот предмет во всяком случае вспомогательный. Группа обществоведения представлена следующими предметами: 1) полит. экономия, 2) государственное и хозяйственное право, 3) история ВКП, 4) исторический материализм, 5) история евреев XIX века, 6) аграрная политика. Большинство из этих предметов изучается, как известно, и в средней школе. Нужно, поэтому, выяснить, где же место этим предметам. Если в средней школе—то не надо загружать ими учебный план ВУЗ'а, если изучать их в ВУЗ'е, тогда надо разгрузить среднюю школу. В противном случае создается лишь трата времени и средств тем более, что эти предметы занимают в учебном плане значительное место.

Таким образом даже самый беглый обзор учебного плана агрономического факультета Академии указывает на возможность сокращения кафедр, не говоря уже о сокращении учебных предметов.

*Учебный план Академии ясно расчитан на энциклопедистов, подготовляемых в сущности только к научно-исследовательской работе. С такой целевой установкой школы согласиться нельзя.* Если

у нас имеется Научно-Исследовательский Институт, с широким доступом в него аспирантов, то едва ли целесообразно Академии ставить задачу подготовки ученых теоретиков.

*Не масса лабораторных ученых нужна сейчас жизни.* Достаточно, если таковые будут исчисляться единицами. От этого, между прочим, наука только выиграла бы. Сельскому хозяйству нужны люди дела, практики, с достаточно глубоким научным фундаментом по своей специальности, нужны живые работники, воспитанные на познании местного сельского хозяйства и способные реконструировать его с наименьшими затратами. Академия же, с ее 42-я научными дисциплинами, стремится выпустить теоретика „агронома в мировом масштабе“ тогда как нам нужен *белорусский* агроном—практик.

*Государство тратит ежегодно на Академию свыше 800000 руб., а мы, работники на местах, не можем во всей Белоруссии вот уже пятый год найти ни одного агронома, который смог бы организовать сыроварню или маслодельню с выделкой сколько-нибудь сносного экспортного масла.* Как это ни печально, но, к сожалению—это факт. Факт—о котором трудно спокойно говорить. Ведь если Академия дает людей не способных практически организовать и наладить процесс с/х производства, людей, абсолютно лишенных каких-либо практических умений—то к чему же сведется работа средней и низовой сети с/х образования—т. е. Техникумов и проф-школ, как не к передаче тоже книжных теоретических сведений. И эти школы будут выпускать, в свою очередь, „техников“ и „мастеров“, начиненных только книжными знаниями и лишенных навыков и умений в с/х производстве.

В области скотоводства и молочного хозяйства, отрасли столь важной для Белоруссии, создалось, напр., следующее положение: для того, чтобы сдвинуть это дело с мертвой точки, приходится срочно поднять вопрос о командировании заграницу хотя бы 5—6 чел., окончивших с/х Техникум для подготовки первоначального кадра инструкторов—практиков. Командировать именно не из Академии, ибо оттуда пошлют людей опять в лабораторию для изощрения в респирационных опытах.., с тем, что командированные, вернувшись, вновь засядут в лабораторные недра исследовать историческое происхождение ноги лошади... Нет,—только не из Академии и только не в лабораторию, не в кабитет. Надо послать молодых людей, не потерявших еще интереса и чувства действительности, т. е. не окончательно „заучившихся“, и послать прямо на какую-нибудь ферму, на образцово поставленный маслодельный завод Германии, Дании или Швеции. Эти единицы, пройдя практическую школу датской маслодельни, быть может смогут, вернувшись к нам, создать необходимое ядро практиков, послужить той закваской, без которой сейчас немыслимо работать за полным отсутствием у нас технического инструкторского персонала.

Вот результаты, к которым приводит неправильная целевая установка Академии (вернее полное отсутствие таковой установки), ее учебные планы и методы преподавания—далекие от требований практической жизни. Академия в ее современном состоянии напоминает машину на холостом ходу, без приводного ремня, соединяющего ее с практическим делом. Постановка учебной части в Академии сейчас такова, что она способна создать кризис в процессе восстановления массового крестьянского хозяйства, ибо без хорошо подготовленного кадра агрономов—практиков трудно что-либо сделать в области сельского хозяйства.

Разрешить вопрос, по моему разумению, можно, во 1-х, коренным пересмотром целевой установки Академии, с тем, чтобы она, оставаясь

высшим учебным заведением, *подготовляла людей все-таки для практического сельского хозяйства, а не для лабораторий научно-исследовательских Институтов*,

во 2-х) пересмотром учебного плана в смысле решительного и бесповоротного *упразднения многопредметности и энциклопедичности*,

в 3-х) разгрузкой преподавания от излишнего теоретического учебного материала,

в 4-х) *введением принципа изучения местного (белорусского) сельского хозяйства*,

в 5-х) изменением методики преподавания в сторону большего развития самостоятельной работы учащихся в процессе обучения, и в 6-х) *широкой постановкой практических занятий студентов*, при условии образцового оборудования фермы, обеспеченной опытными инструкторами-специалистами.

Предлагаемое упразднение нескольких факультетов, сокращение кафедр в связи с рационализацией учебного плана, сократило бы число научных сотрудников и значительно уменьшило бы ежегодные расходы по содержанию Академии—теперь непомерно большие. *Часть освободившихся средств в течение ближайших лет могла бы быть направлена на организацию и лучшую постановку учебно-вспомогательных учреждений Академии, что способствовало бы превращению последней в действительно высшее сельско-хозяйственное учебное заведение.*

# НА МЯСЦОХ

**Н. Разумаў**

## Да вынікаў агітпропнарады Залінейнай арганізацыі

*(г. Гомель)*

Нарада Агітпропактыву райёну праходзіла пад знакам праверкі выкананьня дырэктыў партыі ў асноўных пытаньнях масавай работы і намеціла цэлы шэраг мерапрыемстваў накірованых да ажыўленьня пастаноў Пленумаў РК і АК у галіне паляпшэньня якасьці масавай работы, поўнага абслугоўваньня запытаньняў рабочых мас. Арганізацыйныя пытаньні ў спрэчках зводзіліся к таму, што мясцкомы мала зварочваюць увагі пры арганізацыі масавае работы да поўнага абслугоўваньня запытаньняў рабочых мас. Асабістую ўвагу завайстрылі на пытаньнях арганізацыі масавае работы непасрэдна ў цэхавых ячэйках. Нядаўна праведзеныя перавыбары партарганізатараў па ўсіх прадпрыемствах ставяць перад намі асноўную задачу пэрыядычнага іх інструктаваньня з тэй прычыны, што мінулая работа партарганізатараў не заўсёды дастаткова адказвала правядзеньню асноўных задач партыі: былі выпадкі скрыўленьня партыйнае лініі (3 вуч. сл. Цягі) вызначаных у праяўленьні хвастызму і несваечасовым рэагаваньні на паасобныя благія настроі рабочых.

Да нарады было праведзена абсьледаваньне некалькіх насьценных газэт і становішча рабкораўскае работы. У насьценных газэтах надта мала асьвятляюцца пытаньні праф. і партыйнага жыцьця прадпрыемстваў. Удзел беспартыйнай масы ў рабкораўскім руху і насьценгазэце зусім недастатковы, адсутнічае сваечасовае рэагаваньне гаспадарнікаў на заметкі рабкораў і карэспандэнтаў насьценных газэт па вытворчых пытаньнях (калі і паступае абвяржэньне ад асобных гаспадарнікаў, дык звычайна тысячы спасылак на рознага роду загады робяць зьмест абвяржэньня незразумелым для рабочых). Зусім мала асьвятляецца жыцьцё і быт раёну ў „Гудке" і „Полеской Правде". Усе гэтыя недахопы ў рабкораўскім руху могуць быць зьнішчаны толькі пры ўмацаваньні парткіраўніцтва рабкораўскаю работаю, праз стварэньне агульнае ўвагі парт'ячэек навакол работы насьценных газэт і рабкораў. Неабходна абвясьціць бязьлітасную барацьбу халатным і грэблівым адносінам да гэтае галіны масавае работы.

### Новая рэформа зарплаты і задачы праф. і парт. арганізацый

Натуральна, што пытаньні заработнай платы на транспарце ў сувязі з правядзеньне новае рэформы будуць займаць вялікае мейсца ў сыстэме масавае работы. Партыйным і прафарганізацыям неабходна дабіцца сваечасовага і правільнага ўразуменьня мэтаў і задач зьвязаных з практычным правядзеньнем у жыцьцё новае рэформы.

Новая рэформа зарплаты выклікана неабходнасьцю зьмяншэньня ненармальнасьцяй і стракатасьці ў зарплаце сярод аднальковых груп рабочых; з мэтаю паляпшэньня разрыву ў аплаце працы кваліфі-

каваных і некваліфікаваных рабочых мас і г. д. Аднак, нам ні на хвіліну нельга выпускаць з поля гледжаньня асноўнага палажэньня рэформы зьвязанага з сапраўдным падняцьцем вытворчасьці працы, узмацненьнем увагі да разгортваньня вытворчай прапаганды і палепшаньня якасьці работы вытворчых нарад і вытворчых камісій.

### Вытворчая прапаганда і работа вытворч. камісій

Пытаньні зарплаты не павінны адцягваць увагу працоўных мас ад асноўных дырэктыў партыі, пастаўленых XV партзьездам у галіне правядзеньня рацыяналізацыі, зьніжэньня сабекошту выпускаемай прадукцыі і барацьбе з бюрократызмам. Вынікі праведзенае вытворчае нарады сьведчаць аб тым, што па пытаньні зьніжэньня сабекошту на нашых асноўных прадпрыемствах вялікіх дасягненьняў няма. Вытворчая прапаганда ў шэрагу прадпрыемстваў зусім адсутнічала. У сувязі з гэтым АПАнарада намеціла наступныя мерапрыемствы па ажыўленьні гэтай работы.

Разгортваньне вытворчае прапаганды на прадпрыемствах шляхам скарыстаньня спэцыялістых (інжынэраў, тэхнікаў, майстраў цэху, партадміністратараў) для правядзеньня дакладаў, гутарак, лекцый на вытворчыя тэмы. Мясцкомам трэба скарыстаць цягу рабочых мас да арганізацыі гурткоў тэхнічных ведаў і вытворчых гурткоў, якія павінны заняць пэўнае мейсца ў вытворчай прапагандзе.

Неабходна прыняць меры да арганізацыі вытворчых цэхавых і агульна-завадзкіх вечарынак самадзейнасьці з раней падрыхтаванаю праграмаю, у якой павінны ўдзельнічаць у першую чаргу кваліфікаваныя рабочыя. Шырока скарыстаць інфармацыю аб вынаходках рабочых і ўсіх дасягнутых тэхнічных удасканаленьнях у вытворчасьці; усе гэтыя віды работы павінны быць неабходнаю часткаю масавае работы на прадпрыемствах; разам з гэтым неабходна пэрыядычна праводзіць спэцыяльныя вечары, прысьвечаныя вынаходзтву. Правядзеньню вытворчых конкурсаў быў пакладзен пачатак толькі па лініі камсамольскае арганізацыі, неабходна ячэйкам і мясцкомам шырока скарыстаць арганізацыю вытворчых конкурсаў на выяўленьне лепшага рабочага цэха, майстра і г. д. Усе гэтыя віды вытворчае прапаганды могуць быць рэалізаваны толькі пры наяўнасьці вялікае ініцыятывы з боку прафарганізацый, партыйных і камсамольскіх ячэек, шляхам перанясеньня гэтых пытаньняў на абгаварэньне шырокіх рабочых мас, праз асьвятленьне ў насьценных газэтах і мясцовай прэсе.

Узмацненьне вытворчае прапаганды будзе дапамагаць замацаваньню дасягнутых вынікаў у рабоце вытворчых камісій і вытворчых нарад. Для ўзмацненьня ўдзелу ўсяе рабочае масы ў вытворчых нарадах, неабходна прафарганізацыям сачыць за тым, каб адміністратары сыстэматычна інфармавалі рабочых цэху альбо прадпрыемства аб выкананьні прапаноў ВК і ВС (вытворчых каміс. і нарад).

### Аб удзельнічаньні інтэлігэнцыі ва ўсіх відах масавай работы

Практычнае ажыцьцяўленьне задач, пастаўленых XV партзьездам у галіне культурнага і гаспадарчага будаўніцтва мысьліма толькі пры актыўным удзеле ў грамадзкай рабоце нашых спэцыялістых і працоўнае інтэлігэнцыі. Аднак, праверыўшы і падвёўшы вынікі ўдзельнічаньня ў грамадзкім жыцьці з боку значнае часткі інтэлігэнцыі нашага раёну, наглядаецца нічым нерастлумачаная інэртнасьць. Тут напэўна вялікая віна часткі нашых савецкіх ячэек, якія нерашуча ставілі перад спэцыялістымі і інтэлігэнцыяю тыя практычныя пытаньні, у разьвязваньні якіх яны павінны былі прымаць самы актыўны ўдзел. На працягу

цэлага шэрагу месяцаў у паасобных ячэйках і прафарганізацыях ня ставілася ва ўсёй шырыні пытаньне аб удзеле інтэлігэнцыі ў масавай рабоце, ня было вывучэньня і выяўленьня прычын слабога разгортваньня паасобных галін масавае работы. Нярэдка прыходзіцца чуць, што сярод паасобных груп інтэлігэнцыі прасьлізаюць ноткі вялікадзяржаўнага расійскага шовінізму, разам з гэтым пытаньні нацпалітыкі і беларусізацыі яшчэ не занялі належнага мейсца ў штодзенным жыцьці праф. і партарганізацый. Сярод часткі настаўніцтва маюцца вельмі і вельмі балючыя настроі: бязумоўнае нежаданьне ўдзельнічаць у масавай рабоце саюзу, таварыствах і г. д. Зусім адсутнічае ў аддзельных настаўнікаў увязка пэдагагічнае работы з задачамі выхоўваньня вучняў савецкае социялістычнае школы. Цэлы шэраг саюзных сходаў нявытворчых саюзаў і МК праходзіць надта казённа, ня кажучы ўжо аб тым, што ў спрэчках звычайна выступаюць адны і тыя-ж асобы.

Усе гэтыя недахопы масавае работы сярод інтэлігэнцыі н стойна патрабуюць ад нас тэрміновага перагляду арганізацыйных мерапрыемстваў, ужываемых да гэтага часу па ўцягваньню ў масавую работу інтэлігэнцыі і спэцыялістых. Прафарганізацыям неабходна больш рашуча ставіць перад інтэлігэнцыяю паасобныя пытаньні з пастаноў XV Зьезду партыі ў галіне барацьбы з бюрократызмам, рацыяналізацыі савецкага апарату, пытаньне культурнага будаўніцтва. Перад усім настаўніцтвам, мэдпэрсаналам і ўсёй працоўнай інтэлігэнцыяй у даны момант трэба паставіць ва ўсю шырыню пытаньне аб прыбліжэньні іх дзейнасьці да патрэб і запытаньняў рабочых мас, да вывучэньня жыцьця і быту рабочых, да вывучэньня ўмоў працы і г. д. Бо выхоўваньне дзяцей рабочага з боку настаўніка, правядзеньне ў жыцьцё профіляктычных мерапрыемстваў з боку мэдычных працаўнікоў, барацьба за новы быт, унядрэньне санітарна-гігіенічных навыкаў сярод шырокіх працоўных мас, усе гэтыя, вялізарнейшыя задачы, што стаяць у парадку дня перад працоўнай інтэлігэнцыяй могуць быць выкананы толькі пры ўмовах праяўленьня шырокай самадзейнасьці, калектыўнае творчае работы ўсіх працоўных; і самае галоўнае—неабходна ўзмацненьне партыйнага кіраўніцтва савецкіх ячэек гэтымі галінамі працы.

## Прыводныя рамені масавае работы на прадпрыемстве

Растучыя новыя кадры партыйнага і прафэсыйнага актыву, вялікая сетка парторгаў, зьвенявых арганізатараў, АПА індывідуалаў, разгортваючыя сваю масавую работу пад кіраўніцтвам АПА камісій, бюро парт'ячэек праз пэрыядычныя склікі нарад у раённым маштабе, да сучаснага моманту маюць вялізарны досьлед у практычным ужываньні формаў і мэтодаў масавай работы ў цэху, на прадпрыемстве, у чырвоным кутку і клюбе. Яскравым паказальнікам вынікаў гэтай работы служыць растучая актыўнасьць рабочых мас, палітычны рост актыву і асабліва рост нашае партыйнае арганізацыі.

Аднак, новы прыток рабочых, уліўшыхся на прадпрыемствы за мінулы год, масавы рост партыйнай арганізацыі, а таксама неаднолькавасьць агульнага і палітычнага ўзроўню рабочых, прад'яўленьне да нас большых запатрабаваньняў адносна лепшае арганізацыі масавае работы на прадпрыемствах, няўхільна патрабуе большага падвышэньня ідэёвага зьместу ўсяе масавае і групавае агітацыі. Больш увагі трэба аддаць высоўваньню і апрацоўцы беспартыйнага актыву, больш інструктаваць партарганізатараў і індывідуалаў па паасобных пытаньнях.

У парадку дню побач з пытаньнямі вытворчымі перад усёй нашай партарганізацыяй стаяць наступныя пытаньні:

а) барацьба з антысэмітызмам, які мае некаторую тэндэнцыю к росту як сярод служачых, так і рабочых;

б) разгортваньне анты-рэлігійнае прапаганды сярод працоўных мас раёну;

в) барацьба са спадчынай старога быту (барбарскія адносіны да сям'і, налічча п'янства і хуліганства, асабліва сярод часткі маладых рабочых);

г) узмацненьне ўвагі адносна пытаньняў ваенізацыі і разгортваньня шырокае самадзейнасьці дабраахвотных таварыстваў.

Разьвязка вышэйпададзеных пытаньняў сярод рабочых мас у духу дырэктыў партыі мысьліма толькі пры ўмовах актыўнага ўдзелу ўсяго партыйнага актыву арганізацыі.

Агітпропкамісіям, культкамісіям трэба найбольш чула падходзіць да арганізацыі масавай работы ў цэху, у чырвоным кутку, клюбе і г. д. Больш увагі вывучэньню настрояў рабочых мас і іх правільнаму вучоту. У практыцы работы партарганізатараў мы мелі такога роду выпадак, калі парторг кажучы аб палітычным становішчы цэху перадаваў свае асабістыя адмоўныя адносіны па паасобных пытаньнях, выказваючы гэтыя настроі, як выраз волі ўсяго цэху; праверка паказала адваротнае, што настроі рабочых цэху ня маюць ніякіх адносін да высунутых момантаў. Лепшым мэтадам барацьбы з паасобнымі благімі настроямі рабочых мас павінна быць:

а) сапраўднае вывучэньне асноўных крыніц настрояў рабочых груповак, альбо паасобных асоб;

б) своечасовае рэагаваньне кожнага партыйца на балючыя зьявішчы, у якой-бы форме яны не праяўляліся сярод мас;

в) рашучае бічаваньне хвастызму, паддакаваньню, замазваньню, пані-брацтву, маючаму мейсца нават сярод адсталых членаў партыі і камсамольцаў.

Трэба весьці рашучую барацьбу з усялякімі скрыўленьнямі партыйнай лініі, дабіваючыся ад членаў партыі бальшавіцкае стойкасьці, вытрыманасьці і выяўленьня свайго партыйнага я, памятуючы аб тым, што добры асабісты прыклад у адносінах да прадпрыемства, да грамадзкай працы найбольш навочна б'е па адмоўных настроях, што праяўляюцца сярод паасобных груп рабочых і служачых.

Для паляпшэньня якасьці ўсіх галін масавай работы патрабуецца адхіленьне кампанейскага шаблённага мэтаду, вытраўліваньня казёншчыны і бюрократычнага падыходу, які часта даводзіцца наглядаць пры разьвязваньні складаных проблем культурнага будаўніцтва. Трэба штодзенна імкнуцца да таго, каб абапіраючыся на шырокія рабочыя масы патрабаваць ад партарганізатараў, АПА, індывідуалаў і ўсіх членаў партыі няўхільнага правядзеньня ў жыцьцё ўсіх дырэктыў партсходаў і вышэйстаячых парторганаў.

Павінна быць сыстэматычная праверка выкананьня даваемых дырэктыў кожнаму члену партыі. Толькі сталёвая ўпэўнанасьць у свае сілы на перамаганьне ўсіх цяжкасьцяй на шляху разгортваньня культурнага будаўніцтва, толькі неабмяжованая адданасьць усіх працоўных мас справе гэтага будаваньня можа служыць забесьпячэньнем новых перамог на фронце культурнае рэвалюцыі.

Ленін вучыў нас—трэба падрыхтоўваць людзей, прысьвячаючых рэвалюцыі не адны толькі вольныя вечары, а ўсё сваё жыцьцё. Да ажыцьцяўленьня гэтага вучэньня мы павінны імкнуцца пры арганізацыі масавай работы на прадпрыемстве.

# У ЦК КП(б)Б

## Пастанова Сакратарыяту ЦК КП(б)Б па дакладу аб працы сярод настаўніцтва ад 16/IV 1928 г.

Заслухаўшы даклад фракцыі ЦП Саюзу Белпрацасьветы, аб выкананьні дырэктыў ЦК КП(б)Б па працы сярод настаўніцтва, Сакратарыят канстатуе:

а) Узмацненьне праўленьняў Саюзу партыйцамі.

б) Паляпшэньне грамадзка-карыснай пазашкольнай працы настаўніцтва ў вёсцы.

в) Згуртаваньне навакол праўленьняў і нізавых прафорганаў значнага прафактыву (2698 чал. у 25-26 г.; 5583 у 27-28 г.) і ўцягненьне яго ў практычную саюзную працу.

г) Паляпшэньне становішча працы Дамоў Асьветы і куткоў, у выніку чаго маецца большая зацікаўленасьць і наведваньне іх настаўніцтвам.

д) Правільнае правядзеньне саюзнай лініі ў напрамку абароны прававога становішча настаўніцтва (заключэньне калдагавароў з органамі Нарасьветы, выданьне спэцыяльных палажэньняў і інш.).

е) Узмацненьне працы сэкцый навуковых працаўнікоў (арганізацыя камітэту садзейнічаньня сацыялістычнаму будаўніцтву, арганізацыя сялянскага і рабочых унівэрсытэтаў, абслугоўваньне клюбаў).

Побач з гэтым Сакратарыят ЦК адзначае:

1. Наяўнасьць праяўленьня сярод некаторай часткі настаўніцтва перажытка шовінізму розных колераў, антысэмітызму і рэлігійных уплываў, выпадкаў змазваньня клясавай лініі ў працы на вёсцы, агульна-культурніцкіх, народніцкіх настрояў.

2. Невыстарчальная палітвыхаваўчая праца сярод насельніцтва як з боку прафорганаў, так і з боку кіраўніцтва гэтаю працаю партарганізацый.

3. Недастатковая масавая праца сярод настаўніцтва ў горадзе.

4. Слабае разьвіцьцё грамадзкасьці сярод гарадзкога настаўніцтва.

5. Да гэтага часу прыкмячаецца яшчэ праяўленьне недапусьцімых выпадкаў непатрэбнага адміністрыраваньня, перакідак і наогул няўважлівых адносін да настаўніцтва з боку адміністрацыйных устаноў.

Сакратарыят ЦК у далейшым прапануе:

1. Асаблівая ўвага ў сучасны момант партарганізацыямі і фракцыямі праўленьняў саюзу павінна быць зьвернута на палітвыхаваўчую працу сярод настаўніцтва. Дзеля гэтага патрэбна максімальная актыўнасьць па ажыцьцяўленьню задач палітвыхаваньня настаўніцтва, падняцьця адказнасьці за пастаноўку гэтае справы, увязку пастаноўкі справы палітвыхаваньня з бягучымі практычнымі пытаньнямі агульна-палітычнага жыцьця краіны і сацыялістычнага будаўніцтва. Зьмест працы па палітвыхаваньню і па палітасьвеце павінен быць у асноўным наступны:

а) Арганізацыя для настаўніцтва паліткурсаў, гурткоў, сэмінарыяў для прапрацоўкі ў іх як чарговых палітычных пытаньняў, якія выплываюць з сучаснага становішча краіны, так і вывучэньня асобных палітычных дысцыплін.

б) Далейшае пашырэньне падпіскі на палітычныя выданьні (газэты, кнігі).

в) Уцягненьне ўсяго настаўніцтва ў грамадзкую пазашкольную працу.

г) Садзейнічаньне настаўніцтву ў іх самаадукацыйнай працы па падняцьцю кваліфікацыі і перакваліфікацыі.

д) Увядзеньне ў сыстэму культпрацы анты-рэлігійнай пропаганды.

е) Больш глыбокае вывучэньне нацыянальнай палітыкі УсеКП(б) і азнаямленьне настаўніцтва з практычнымі мерапрыемствамі партыі і ўлады па гэтаму пытаньню.

ж) Пастаноўка сыстэматычнай працы сярод настаўніцтва па ваенізацыі.

2. У мэтах вывучэньня грамадзка-палітычнага становішча гарадзкога і чыгуначнага настаўніцтва і накіраваньня разьвіцьця грамадзкасьці гэтай часткі настаўніцтва па належнаму руслу, даручыць фракцыі ЦП і Акругкомаў вывучыць гэта пытаньне па прыкладу абсьледваньня працы вясковага настаўніцтва, якое праведзена было ў 27 годзе.

Грамадзкая праца гарадзкога настаўніцтва павінна, галоўным чынам, пайсьці па лініі: а) ліквідацыі няпісьменнасьці, б) пазашкольная праца настаўніка з вучнямі, в) праца з бацькамі вучняў, г) культшэфства над Чырвонай арміяй, д) абслугоўваньне рабочых клюбаў, е) краязнаўчая праца.

3. Фракцыі ЦП і НКА ўзяць больш рашучую лінію на ўмацаваньне вясковых школ больш кваліфікаванымі настаўнікамі, шляхам пасылкі на вёску канчаючых унівэрсытэты і тэхнікумы.

4. Катэгарычна прапанаваць парткамітэтам і фракцыям належных савецкіх і прафсаюзных органаў рашуча выжыць маючыя да гэтага часу непатрэбнае адміністраваньне, тузаньне, беспадстаўныя перакідкі настаўніцтва. Прыцягваць да адказнасьці тых працаўнікоў, якія ня будуць ці будуць нядбайна выконваць гэтую дырэктыву.

5. Фракцыі ЦП у далейшым непасрэдна па саюзнай лініі зьвярнуць увагу на наступнае:

а) На ўзмацненьне і паляпшэньне масавай працы сярод гарадзкога настаўніцтва,

б) Далейшае паляпшэньне якасьці працы Дамоў Асьветы.

в) Павялічэньне ліку камуністых у нізавых праforганах у мэтах партыйнага ўплыву на працу апошніх.

г) Большага ўцягненьня ў актыўную саюзную працу прафактыву.

Увесьці ў сыстэму працы праforганаў дапамогу настаўнікам вёскі ў грам. працы шляхам:

а) Скліканьня нарад па гэтаму пытаньню.

б) Пастаноўкі адпаведных дакладаў на канфэрэнцыях і сходах.

в) Таварыскай перапіскі саюзных органаў з настаўніцтвам.

г) Забесьпячэньня настаўніцтва адпаведнаю літаратураю.

Даручыць фракцыі ЦП Саюзу і АПА ЦК праверыць да новага навучальнага году выкананьне вышэйдадзеных дырэктыў, а таксама далейшага выконваньня дырэктыў дадзеных у 1926 і 1927 годзе.

## Ітогі вуснай і друкаванай агітацыі і прапаганды

### Па пытаньнях рацыяналізацыі вытворчасьці, зьніжэньня сабекошту ў прамысловасьці і рэжыму эканоміі

*(Пастанова Сакратарыяту ЦК КП(б)Б ад 11 мая 1928 г.)*

1. Прызнаць, што, ня гледзячы на цэлы шэраг дасягненьняў, у рабоце па рацыяналізацыі вытворчасьці і зьніжэньню сабекошту, у некаторых галінах прамысловасьці на прадпрыемствах БССР, шырокія рабочыя масы яшчэ слаба ўцягнуты ў практычную работу па рацыяналізацыі вытворчасьці, зьніжэньню сабекошту ў прамысловасьці і рэжыму эканоміі і гэтая работа яшчэ ня мае таго размаху, які дыктуецца пастановамі ЦК УсеКП(б) ад 9 мая 1927 г. і дырэктывамі XV-га Зьезду УсеКП(б).

2. У галіне масавай агітацыі слаба высьвятляюцца каранныя пытаньні рацыяналізацыі; адзнакі сацыялістычнай рацыяналізацыі і капіталістычнай, значэньне рацыяналізацыі ў справе зьніжэньня сабекошту ў прамысловасьці, задачы рацыяналізацыі вытворчасьці пры правядзеньні сямігадзіннага рабочага дню, рацыяналізацыя і беспрацоўе, рацыяналізацыя і капітальнае будаўніцтва.

Слаба вядзецца падрыхтоўка нізавога партактыву па пытаньнях рацыяналізацыі вытворчасьці. Агітацыя ўсё яшчэ вядзецца „наогул“ і недастаткова ўвязваецца з канкрэтнымі плянамі рацыяналізацыі ў тэй ці іншай галіне прамысловасьці ці прадпрыемства, а таксама дасягненьні, якія маюцца ў выніку рацыяналізацыі і якую карысьць атрымоўвае рабочы данага прадпрыемства, слаба скарыстоўваюцца ў агітацыі.

3. У галіне друку дырэктывы партыі па пытаньнях рацыяналізацыі вытворчасьці, зьніжэньня сабекошту ў прамысловасьці і рэжыму эканоміі, у асноўным знайшлі сваечасовы адбітак на старонках „Зьвязды“, „Акцябра“, „Рабочага“ і „Чырвонай Зьмены“.

Аднак, неабходна адзначыць, што з боку рэдакцый гэтых газэт ня было зьвернута досыць увагі на наступныя моманты: а) высьвятленьне вопыту работы вытворчых нарад, б) недастатковае прыцягненьне рабкораў да высьвятленьня работы рацыяналізацыі і зьніжэньня сабекошту ў прамысловасьці, в) прыцягненьня да высьвятленьня пытаньняў рацыяналізацыі і зьніжэньня сабекошту ў прамысловасьці тэхнічнага пэрсаналу прадпрыемстваў і гаспадарчых працаўнікоў, г) вучот таго, якія вынікі даюць зьмяшчаемыя ў газэты заметкі і як рэагуе на іх адміністрацыя прадпрыемства альбо ўстановы, а таксама што зроблена адміністрацыяй, дзякуючы газэтным заметкам, д) на адсутнічаньне кіраўніцтва рабкорамі па палітычных і гаспадарчых кампаніях.

Газэты, асабліва „Рабочий“, у высьвятленьні пытаньняў рацыяналізацыі часам ужывалі замест самакрытыкі мэтады сэнсацыі (гаспадарчыя працаўнікі праваліліся, гаспадарчыя працаўнікі адступаюць, а прафсаюзы наступаюць) і аднабокага асьвятленьня работы прадпрыемства і ўстаноў, або хваляць, што ўсё добра, або ўсё кепска, чым дэзарыентавалі рабочага чытача.

У насьценных газэтах ня досыць шырока і сыстэматычна высьвятлялася пытаньне рацыяналізацыі вытворчасьці і зьніжэньня сабекошту і канкрэтных вынікаў у гэтых галінах.

4. З боку парт'ячэек недастатковае вынясеньне пытаньняў на шырокае абгаварэньне рабочых мас, абмежаваньне пастаноўкай гэтых пытаньняў толькі на бюро ячэйкі, заўкомаў, а таксама недастатковае кіраўніцтва па канкрэтных пытаньнях рацыяналізацыі вытворчасьці з боку райкомаў і акругкомаў КП(б)Б.

5. У адносінах да гаспадарчых органаў адзначыць, што ў выкананьні пастановы ЦК УсеКП(б) назіраюцца фармальныя адносіны да гэтай справы і недастатковая інфармацыя як рабочых, так і парт. і праф. арганізацый аб правадзімых мерапрыемствах, асабліва ў ніжэйшых зьвеньнях гаспадарчых органаў, пляны рацыяналізацыі, зьніжэньня сабекошту папярэдне сярод рабочых (вытворчыя камісіі, вытворчыя нарады, часовыя КК і сходы) не абгаварваюцца. Часам пляны даюцца зьверху і нізавы гаспадарчы працаўнік ня ведае, як растлумачыць запытаньні рабочых. Несваечасовая папярэдняя інфармацыя аб вызначаемых мерапрыемствах, а таксама аб выніках правядзеньня гэтых мерапрыемстваў, зусім адсутнічае ўвага з боку гаспадарчых і тэхнічных працаўнікоў да вытворчай прапаганды сярод рабочых. Усё гэта перашкаджае ўцягненьню шырокіх мас у справу рацыяналізацыі вытворчасьці.

6. У штодзённай працы праорганаў не знаходзяць належнага адбітку пытаньні рацыяналізацыі, зьніжэньня сабекошту і адміністрацыйных выдаткаў. Няма дастатковага падагуліваньня вопыту вытворчых камісій і нарад, амаль поўнасьцю адсутнічае кіраўніцтва эканомкамісій. У культурнай працы адсутнічае вытворчая прапаганда.

Выходзячы з гэтага, Сакратарыят пастанаўляе:

## *1. Партыйным арганізацыям:*

а) Прыняць больш рашучыя меры да разгортваньня шырокай масавай агітацыйнай работы навакол задач рацыяналізацыі вытворчасьці і зьніжэньня сабекошту прамысловасьці, больш рашуча прыцягваючы да працы органаў КК РСІ партыйныя, прафэсыянальныя і камсамольскія арганізацыі на прадпрыемствах і ва ўстановах (ячэйкі, фабзаўмясцкомы), а таксама членаў саветаў і сэкцый саветаў;

б) Прасачыць за тым, каб масавая агітацыйная работа разгортвалася ў напрамку палепшаньня якасьці работы вытворчых нарад (згодна пастановы Бюро ЦК ад 16/IX-27 г.), разгортваньне вытворчай прапаганды, дапамогі рабочаму вынаходніцтву, прыцягненьне і скарыстаньне навуковых тэхнічных сіл і ўзмацненьня партыйнага кіраўніцтва агітацыяй па канкрэтных пытаньнях рацыяналізацыі вытворчасьці па таму ці іншаму прадпрыемству альбо групе прадпрыемстваў;

в) Парт'ячэйкі павінны мець канкрэтны плян удзелу членаў партыі ў рабоце па рацыяналізацыі вытворчасьці і зьніжэньню сабекошту ў прамысловасьці на даным прадпрыемстве ў адпаведнасьці з асаблівасьцямі гэтага прадпрыемства і культурна-палітычным узроўнем рабочых;

г) На партсходах і партактыве ставіць пытаньне вытворчых і будаўнічых плянаў

## *2. У галіне друку:*

а) Разгарнуць шырокую дзелавую самакрытыку, шырока ўцягваючы рабкораў, а таксама зьвярнуць увагу на высьвятленьне матар'ялаў, малюючых ня толькі адмоўныя, але і станоўчыя бакі ў справе правядзеньня рацыяналізацыі, зьніжэньня сабекошту і адміністрацыйных выдаткаў; паставіць газэтам, як задачу, будаваць матар'ял пераважна на рабкораўскім матар'яле, унікаючы рэпарцёрскіх заметак, а таксама паставіць шырэй высьвятленьне ў газэтах думкі, выказваемай рабочымі на сходах, вытворчых нарадах, камісіях і інш. Узяць у загалоўках больш вытрыманы тон, правідлова арыентуючы рабочага чытача. Уцягнуць у працу рэдакцый працаўнікоў знаёмых з эканамічнымі і тэхнічнымі пытаньнямі.

б) Крытыка работы па рацыяналізацыі павінна стаць больш канкрэтнай у напрамку высьвятленьня рэальных разьмераў дасягненьняў, шляхоў, якімі дасягнуты палепшаньні ў рабоце, і недахопаў у галіне рацыяналізацыі вытворчасьці.

в) Арганізаваць сыстэматычную работу з рабкорамі і рэдакцыйнымі калегіямі насьценных газэт праз скліканьне нарад па гэтых пытаньнях з удзелам гаспадарчых працаўнікоў і пастаноўку інфармацыі рэдакцый на сходах рабкораў аб бягучых палітычных і гаспадарчых задачах і канкрэтных выніках паасобных заметак у газэтах.

г) Шырэй прыцягваць гаспадарчых працаўнікоў, асабліва дырэктароў, тэхнікаў майстроў, да ўдзелу ў друку для высьвятленьня іх важнейшых мерапрыемстваў у галіне рацыяналізацыі вытворчасьці.

д) Працягваць рашучую барацьбу з выпадкамі супраціўленьня адміністрацыйнага і гаспадарчага апарату ў справе правядзеньня рэжыму эканоміі, асабліва па пытаньнях невыкананьня пастаўленай партыяй задачы скараціць выдаткі апарату ня менш, як на 20%. Шырэй высьвятляць у друку ўдзел грамадзкіх арганізацый, вытворчых нарад, эканомкамісій, праорганаў і парт'ячэек у вырашэньні гэтых пытаньняў.

е) Насьценныя газэты павінны будаваць сваю працу так, каб пытаньні рацыяналізацыі вытворчасьці і зьніжэньня сабекошту дакладна і сыстэматычна імі высьвятляліся. Трэба, каб усе лепшыя сілы прадпрыемства, як з боку рабочых, так і з боку спэцыялістых, былі шырока ўцягнуты ў справу высьвятленьня ў насьценнай газэце пытаньня па рацыяналізацыі працы прадпрыемства, каб кожная прапанова рабочага хутка знаходзіла водгук з боку адміністрацыі.

3. ВСНГБ і іншым гаспадарчым установам даць указаньні па лініі гаспадарчых органаў аб больш уважлівых адносінах да справы ўцягненьня рабочых мас у работу па рацыяналізацыі вытворчасьці і зьніжэньня сабекошту прамысловасьці, у прыватнасьці па наступных пытаньнях: а) аб своечасовай інфармацыі партыйных і прафсаюзных арганізацый, аб намячаемых мерапрыемствах па рацыяналізацыі, для падрыхтоўкі агітатараў і прапагандыстых; б) аб актыўным удзеле гаспадарчых працаўнікоў у вытворчых нарадах; в) аб аказаньні садзейнічаньня прафсаюзам і іх інжэнэрна-тэхнічным сэкцыям па прыцягненьню адміністрацыйна-тэхнічнага пэрсаналу да актыўнага ўдзелу ў вытворчых нарадах і камісіях, а таксама ў работу вытворчых гурткоў, кансультацый па тэхнічнай самаадукацыі; г) аб больш уважлівых адносінах да пытаньняў, якія высоўваюцца паасобнымі рабочымі і тэхнічным пэрсаналам, у сувязі з недахопамі вытворчасьці; д) аб сваечасовым і папярэднім абгаварваньні на прадпрыемствах плянаў і праэктаў будаўніцтва і мерапрыемстваў па рацыяналізацыі; е) аб садзейнічаньні эканомкамісіям у справе палепшаньня апарату і яго работы і зьніжэньня выдаткаў на яго ўтрыманьне.

## 4. *Прафэсыйным арганізацыям:*

а) Зьвярнуць увагу на большы адбітак пытаньняў рацыяналізацыі, зьніжэньня сабекошту і адміністрацыйных выдаткаў у сваёй штодзённай працы, асабліва нізавых органаў, а таксама кіраўніцтва вытворчымі камісіямі і эканомнарадамі.

б) Увясьці плянавасьць у прапрацоўку гэтых пытаньняў з боку вытворчых камісій і эканомнарад на падставе задач па рацыяналізацыі, прадугледжаных прамфінплянамі, і ўзмацніць праверку выкананьня сваіх пастаноў.

в) Увясьці сыстэматычны вучот дасягненьняў па рацыяналізацыі і зьніжэньню сабекошту і адміністрацыйных выдаткаў, атрыманых у працэсе працы вытворчых камісій нарад і г. д.

г) Ставіць канкрэтныя пытаньні рацыяналізацыі, зьніжэньня сабекошту і адміністрацыйных выдаткаў на агульных сходах рабочых і работніц. Прыняць меры да падрыхтоўкі новага актыву па пытаньнях вытворчасьці, уцягваючы яго ў тэхнічныя гурткі.

5. Маючы на ўвазе, што па правядзеньню рацыяналізацыі ў шэрагу выпадкаў патрабуецца прыстасаваньне рабочай сілы да больш кваліфікаванай працы, прапанаваць ВСНГ і НКПрацы сваечасова ўжываць меры да падрыхтоўкі рабочых да больш высокіх арганізацыйных мэтадаў працы. Асаблівую ўвагу зьвярнуць на падрыхтоўку і вылучэньне на кваліфікаваную працу работніц.

6. Агітпропу ЦК і фракцыі ЦСПСБ распрацаваць прапанову па шырокай пастаноўцы вытворчай прапаганды на прадпрыемствах.

7. АПА ЦК разам з ВСНГБ, Наркамасьветы і ЦСПСБ арганізаваць: а) выпуск сэрыі масавых брашур навукова-тэхнічнага характару, табліц, плякатаў і іншых матэр'ялаў і дапамогу вытворчым гурткам і тэхнічнай самаадукацыі рабочых; б) распрацаваць стандарты бібліятэчак з навукова-тэхнічнай і папулярнай літаратурай для забесьпячэньня імі клюбаў і чырвоных куткоў; в) распрацаваць плян арганізацыі вытворчых выставак.

---

# ПАРТЫЙНАЯ ХРОНІКА

## У ЦК КП(б)Б

31 сакавіка г. г. пры АПА ЦК КП(б)Б адбылася нарада па пытаньні аб становішчы радыё-вяшчаньня на Беларусі. Нарада заслухала даклад прадстаўніка Цэнтральнай „Радыё-перадачы“ т. Пекарава, які зрабіў абсьледваньне пастаноўкі радыё-вяшчаньня ў г. Менску і Гомелі.

Выступаўшыя ў спрэчках таварышы спыняліся на цэлым шэрагу недахопаў у рабоце радыё, з якіх галоўным зьяўляецца адсутнасьць шырокай грамадзкай думкі навакол радыё-вяшчаньня і радыёфікацыі, слабая дзейнасьць радыёарганізацыі „ТПР“, а таксама радыёсавета (не склікаўся на працягу 9 м-цаў), поўная адсутнасьць нізавых гурткоў „ТПР“ і жывой сувязі з вёскай і шмат іншых дробных недахопаў арганізацыйнага парадку. Апроч гэтага шырокавяшчаньне ня мае здаровай фінансавай базы (асыгнаваньне сродкаў надта слабое і несвоечасовае).

З недахопаў у галіне агітпропработы галоўнымі адзначаны наступныя:

а) слабая і неплянавая работа як па падрыхтоўцы да 15-га Ўсесаюзнага і 11 Усебеларускага зьездаў партыі, так і ў справе папулярызацыі іх рашэньняў;

б) невыстарчальная антырэлігійная прапаганда;

в) неплянавасьць і недастатковасьць работы з нацменьшасьцямі і недастатковасьць работы з нацменшасьцямі на іх роднай мове;

г) невыстарчальнае і неплянавае скарыстаньне аўтарытэтных адказных працаўнікоў для выступленьняў па радыё;

д) слабая прапаганда радыё, як у горадзе, так і на вёсцы;

е) нездавальняемасьць праграм мастацкіх перадач;

ж) слабая мэтавая ўстаноўка радыё-газэт, пабудова іх незабясьпечвае зацікаўленасьці слухачоў, у большасьці выпадкаў скарыстоўваецца матэрыял ужо друкаваных газэт.

Для зьнішчэньня ўсіх гэтых недахопаў у прынятай рэзалюцыі— нарада прапанавала:

1. Ажывіць работу радыёсавета і таварыства прыхільнікаў радыё, уцягваючы ў іх актыўных работнікаў-грамадчыкаў.

2. Распрацаваць квартальны плян радыё-вяшчальнай работы, пабудаваны на падставе гісторыка-рэвалюцыйнага календара, бягучых кампаній партыі, савецкай і прафэсыянальнай грамадзкасьці, а таксама плян больш глыбокай папулярызацыі рашэньняў 15 Усесаюзнага і Ўсебеларускага зьездаў партыі.

3. Увесьці ў сыстэму перадач палітэканамічныя агляды, як унутранага, так і міжнароднага становішча.

4. Выпрацаваць плян работы нацсэкцый Наркамасьветы сярод нацменшасьцяў па радыё, шляхам пастаноўкі сыстэматычных дакладаў, лекцый, гутарак, па ўзгадненьні іх з Нацбюро ЦК КП(б)Б.

5. Наладзіць сыстэматычную работу па антырэлігійнай прапагандзе на ўсіх мясцовых мовах і прыцягнуць да гэтае работы Саюз Бязбожнікаў.

6. Радыё газэты павінны быць строга стандартызаваны ў разьмяшчэньні матэрыялу, у іх трэба больш поўна асьвятляць жыцьцё Заходняй Беларусі, лічыць неабходным вылучэньне спэцыяльнага работніка ў якасьці адказнага рэдактара радыё-газэты, увесьці папярэдні і наступны кантроль Галоўліту.

7. Для папулярызацыі беларускай мастацкай літаратуры, асьвятленьня пытаньяў крытыкі, гісторыі і жыцьця беларускіх і нацменаўскіх літаратурных арганізацый практыкаваць літаратурныя радыё-газэты.

8. Музычная ілюстрацыя павінна быць старанна падабрана і ўвязана з характарам і зьместам газэт, праграмы мастацкіх перадач павінны адбіваць здаровую, бадзёрую музыку, узгоднены з агульнай праграмай агітпрапработы.

Асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на рознастайнасьць інструмэнтаў, часьцей чаргаваць гучэньне, мець найбольш спачуваныя адносіны да вытрыманай беларускай народнай музыкі.

10. Скараціць час перадач радыё-газэт з 40 да 30 хвілін, уключаючы сюды і час патрэбны на музычныя нумары.

11. Пашырыць гадавы бюджэт на радыё-вяшчаньне ў 1928-29 г. за лік адлічэньняў з Усесаюзнага радыё-вяшчальнага фонду да такіх разьмераў, якія забясьпечылі-б разгортваньне работы ў патрэбным маштабе. Колькасьць рабочых гадзін у месяц давесьці да 150, замест мінулых 100.

12. З прычыны надзвычайна высокага процанту адлічэньняў Наркампаштэлю за зьбіраньне мэтавага збору (15—20%) і абанемэнтнай платы 50%, што зьяўляецца вялікім накладным выдаткам на сродкі радыё-вяшчаньня, лічыць гранічным адлічэньнем па мэтаваму збору—5% і па абанемэнтнай плаце—10%.

## У ЦКК КП(б)Б

### Аб формах сувязі друку з органамі КК—РСІ

Прэзыдыум ЦКК зацьвердзіў у якасьці грунтоўных форм сувязі друку з органамі КК—РСІ наступнае: а) дзейнасьць камісіі КК па рабселькораўскіх справах; б) расьледваньне газэтных заметак і рабселькораўскіх карэспандэнцый і паведамленьне аб іх выніках у друку; в) асьвятленьне ў друку матар'ялаў дзейнасьці КК—РСІ. Гэтыя формы патрабуюць свайго далейшага ўзмацненьня і палепшаньня.

Аднак, апрача гэтых форм, на падставе вопыту больш непасрэднага прыцягненьня газэт к дапамозе і садзейнічаньню ЦКК—РСІ, неабходна ў далейшым кіравацца наступнымі паказаньнямі аб формах гэтай дапамогі.

*Газэты прыцягваюцца ЦКК—РСІ да праверкі выкананьня дырэктыў па важнейшых і маючых масавую значнасьць ранейшых абсьледваньнях.* Праверка ажыцьцяўленьня шляхам дачы даручэньняў газэты органам, да якіх гэта тычыцца, адказаць аб выкананьні дырэктыў РСІ ў друку. Да праверкі таксама прыцягваюцца парт. і праф. арганізацыі, Сэкцыі Саветаў, Рэв. камісіі, камсамол і дэлегаткі жанаддзелу, якія аб выніках сваёй праверкі паведамляюць у друку. Газэты павінны ў гэты час прымаць усе меры для прыцягненьня к абгаварэньню пытаньня праверкі рабселькораў рабочых, служачых, побач з гэтым водгукі і заўвагі з боку мас, абслугоўваемых правяраемай установай, павінны друкавацца на працягу праверкі. Вынікі праверкі абгаварваюцца на сходах ячэйкі і членаў прафсаюзу правяраемай установы альбо прадпрыемства, па магчымасьці на масавыя сходы прыцягваюцца абслугоўваемыя. Вынікі праверкі разглядаюцца ў ЦКК—РСІ і апублікоўваюцца ў друку.

2. *Другой формай прыцягненьня газэт зьяўляецца дапамога іх, правадзімым КК-РСІ абсьледваньням па найбольш значным тэмам, шляхам своечасовай мабілізацыі грамадзкага зданьня і шырокага абгаварэньня ў друку па пытаньнях абсьледваньня праз адпаведных работнікаў і рабселькораў.* У час абсьледваньня газэта павінна выклікаць асьвятленьне найбольшай колькасьці прапаноў, матар'ялаў, заўваг, асабліва

крытычнага зьместу з боку шырокіх мас з тым каб апрача матар'ялу выбарчага абсьледваньня ЦКК—РСІ меў магчымасьць карыстацца і грамадзкім матар'ялам газэты. Асобныя матар'ялы друку падлягаюць праверцы ў час абсьледваньня і наогул матар'ял газэт скарыстоўваецца абсьледваньнем. Пры асьвятленьні вынікаў абсьледваньня ў асаблівасьці павінна быць абазначана, у чым выказана дапамога абсьледваньню з боку газэты, якія заўвагі і прапановы яе прыняты і скарыстаны КК—РСІ.

3. Побач з гэтым трэба ўстанавіць каб газэты ў сыстэму сваёй працы ўвялі, што *ў выпадку выяўленьня рабселькорамі і супрацоўнікамі газэт фактаў невыкананьня дырэктыў КК—РСІ, гэтыя факты павінны асьвятляцца ў друку ў выглядзе запытаньня з патрабаваньнем адпаведнага ўзьдзейнічаньня альбо прыцягненьня да адказнасьці.* Наогул газэты павінны растлумачыць рабселькорам неабходнасьць высьвятленьня імі праз газэты фактаў невыкананьня дырэктыў КК—РСІ і парт. і сав. органаў. У гэтым напрамку ініцыятыва газэт у выяўленьні парушэньняў і скажэньняў палітыкі партыі павінна быць падтрымана з боку КК—РСІ шляхам своечасовага рэагаваньня на запытаньні газэт і адказаў на іх у друку.

У адпаведнасьці з вышэйпаказаным намечаны, пералік тэм, з пляну працы ЦКК—РСІ на бягучы год, па якім у першую чаргу будуць прыцягнуты газэты к дапамоге ЦКК—РСІ.

**Аб ліквідацыі Інстытуту Упаўнаважаных НКРСІ і арганізацыі акруговых РСІ**

Прэзыдыум ЦКК пастанавіў ліквідаваць Інстытут Упаўнаважаных НКРСІ і перайсьці да акруговых РСІ. Загадчыкамі акруговых РСІ заставіць быўшых да гэтага часу акруговых упаўнаважаных НКРСІ. Як правіла, у далейшым загадчыкі Акр. РСІ будуць абірацца Акруговымі Выканаўчымі Камітэтамі Саветаў.

Акрамя гэтага Прэзыдыум ЦКК прызнаў мэтазгодным, як вопыт, стварыць Калегіі РСІ ў Менскай і Гомельскай акругах.

**Праверка працы „Треугольника" на прадпрыемствах.**

ЦКК КП(б)Б па даручэньню ЦКК УсеКП(б)—зараз праводзіцца праверка працы ячэек, ФЗМК і адміністрацыі прадпрыемстваў і іх сувязі з шырокімі масамі рабочых у напрамку абслугоўваньня іх культурных, палітычных і эканамічных патрэб.

Аб'ектамі абсьледваньня вызначаны 4—5 прадпрыемстваў у г. Менску і Менскай акрузе. Адначасова дадзены даручэньні правесьці адпаведнае абсьледваньне Віцебскай, Гомельскай, Магілеўскай АКК (ня больш 2-х прадпрыемстваў у кожнай акрузе).

# БІБЛІЯГРАФІЯ

**Аркадзь Смоліч** правадзейны член інстытуту Беларускае культуры, „Організацыя сялянскай гаспадаркі ў раёнах Цэнтральнай Беларусі“, Выданьне Інстытуту Беларускае Культуры. Менск 1927 г. ст. 150.

Сацыялістычнае перабудаваньне сельскае гаспадаркі, як і наогул сацыялістычнае будаўніцтва народнае гаспадаркі, немажліва без дакладнага вывучэньня. Дакладнае і ўсебаковае вывучэньне сельска - гаспадарчых сыстэм (а таксама іх геграфічнага разьмяшчэньня), як выніку шматгадовага прыстасаваньня да існуючых натуральна-гістарычных (глеба, клімат і інш.) і сацыяльна-эканамічных (эканамічная палітыка, рынак, шляхі зносін і г. д.) умоў, зьяўляецца перадпасылачным фактарам, забясьпечваючым пасьпяховасьць плянаваньня. Толькі атрымаўшы, праз папярэдні досьлед пэўныя сельска-гаспадарчыя раёны, прасачыўшы эвалюцыю іх складаньня і ўстанавіўшы фактары, кіруючыя гэтай эвалюцыяй, мы будзем мець цьвёрдую падставу для пабудовы сталай сыстэмы плянавых мерапрыемстваў па сельскай гаспадарцы наогул і зможам іх якасна дыфэрэнцыраваць у прастору. Але, ня гледзячы на такую важнасьць вывучэньня, як перадпасылачнага фактару сацыялістычнага будаўніцтва, мы маем яго на Беларусі, сьмела можна сказаць, у мінімуме. Дзякуючы апошняму, надзвычайна вялікі інтарэс набывае ўсякі досьлед, зьвязаны з сельскаю гаспадаркаю Беларусі. *І тым большую ўвагу і крытычныя адносіны павінны прыцягваць да сябе працы, прэтэндуючыя даць эканамічны грунт, на які павінна накладвацца наша палітыка плянавага кіраўніцтва, бо ад якасьці гэтага грунту будзе цалком залежаць рацыянальнасьць мерапрыемстваў, а гэта значыць і посьпеху сацыялістычнае адбудовы.*

З гэтага пункту погляду мы і будзем разглядаць працу А. Смоліча, якая ставіць у сваю задачу ня „толькі *тэарытычныя* вышукваньні“, але, у сваім устанаўленьні „раённых тыпаў сялянскае гаспадаркі і геграфічным разьмяшчэньні“, жадае мець адну *з асноўных* перадпасылак плянавага сацыялістычнага будаўніцтва Савецкае дзяржавы.

Разьбіраемая праца А. Смоліча – „*Організацыя сялянскае гаспадаркі ў раёнах Цэнтральнае Беларусі*“ - разглядае неўкрупнёную Беларусь (да 1923 г.) і грунтуецца як на матэрыялах масавае статыстыкі, так і матэрыялах праведзенага НКЗ, пад кіраўніцтвам аўтара, у 1923 г. досьледу.

Гэты досьлед быў праведзен „для мэт выстаўкі“, на якую трэба было „выявіць характар тыповае сялянскае гаспадаркі, а дзеля таго, што гатовых матэрыялаў, неабходных для гэтага, амаль што ня было, дык прышлося зьбіраць іх праз адмысловае дасьледваньне“.

Праца А. Смоліча „пачынаецца з с.-г. раёнаваньня цэнтральнае Беларусі на падставе даных масавае статыстыкі. Далей тлумачыцца мэтадалёгія самога бюджэтна-агранамічнага досьледу 1923 г., выясьняюцца асноўныя ўмовы і фактары с-г. вытвору і апісваецца арганізацыя прадукцыйных галін гаспадаркі. У канцы выясьняюцца пытаньні зыскоўнасьці гаспадаркі і яе галін, і робяцца належныя падсумаваньні і практычныя вывады. Да працы ў якасьці дадатку дакладваюцца валасныя падсумаваньні галоўных кніг дасьледаваных гаспадарак, як асноўны сыры матэрыял, якім карыстаўся аўтар пры выясьненьні пытаньняў аб структуры і разьмеркаваньні прыбытку“. Як бачым з вышэйсказанага, задачы, пастаўленыя перад досьледам з боку НКЗ былі значна пашыраны аўтарам і з выяўленьня „тыповай сялянскай гаспадаркі“ для выстаўкі яны зьвярнуліся ў устанаўленьне „раённых тыпаў сялянскае гаспадаркі і іх геаграфічнага разьмяшчэньня“—для абгрунтаваньня палітыкі Савецкае дзяржавы ў плянава-сацыялістычным будаўніцтве.

Паглядзім-жа наколькі выканана пастаўленая аўтарам задача і наколькі ўстаноўленыя ім раёны адпавядаюць таму, каб на іх грунтаваць „пляны агранамічнай работы“, „мерапрыемствы зямельнае с-г. палітыкі“ і г. д.

Перш за ўсё разгледзім тэорэтычную ўстаноўку і тэорэтычныя развагі аўтара.

Грунтоўнымі паказчыкамі пры сваім раёнаваньні сельскай гаспадаркі Беларусі А. Смоліч прымае „адзнакі агульна-геаграфічныя“ (характар краявіду, гушчыня насяленьня) і гэтым паказчыкам надаецца вызначальная роля, напрыклад, паасобныя воласьці заносяцца ім у той ці іншы раён „паводле сваіх глеб“.

Другараднымі паказчыкамі А. Смоліч бярэ: 1) дзесяцін засеву на адну гаспадарку, 2) прапорцыю палявых культур, 3) быдла на 100 дзес. засеву і г. д.

Апошнія паказчыкі характарызуюць, па Смолічу, „сельска-гаспадарчыя адзнакі раёну“. Усе гэтыя паказчыкі можна падзяліць на дзьве групы: 1) Натуральныя (глеба, клімат, рэльеф) і 2) Натуралістычна-тэхнічныя (працэнтныя суадносіны культур, быдла на 100 дзес. засеву і інш.); першая група характарызуе ўмовы сельска-гаспадарчага вытвору, а другая – самы працэс.

Пры гэтым А. Смоліч лічыць, што „ў фармаваньні тыпаў жывёлагадоўлі вялікае значэньне павінны мець суадносіны ральлі і прыроднае кармовае плошчы“ (стр 12) і далей „аднэй з важнейшых умоў, ад якіх зале-

жыць арганізацыя сялянскае гаспадаркі ў Беларусі, ёсьць *спажыцьцё сям'і... спажыцьцё* ўплывае на фармаваньне арганізацыі вытворчых галін" (стр. 40).

Гэтая сыстэма натуральных і натуралістычна-тэхнічных паказчыкаў, пакланеньне перад спажыцьцёвым уплывам сям'і на арганізацыйную структуру гаспадаркі і, нарэшце, угледжваньне непасрэднае залежнасьці арганізацыі гаспадаркі ад натуральных ўмоў, аб'ядняюць А. Смоліча з нэо-народніцкай, дробна-буржуазнай школай у сельска-гаспадарчай эканоміі.

Гэтая школа спрабуе перадаць эканамічную сутнасьць сельскае гаспадаркі і дыфэрэнцыяцыю яе тыпаў у прастору пры дапамозе розных натуралістычна-тэхнічных элемэнтаў сельска-гаспадарчага вытвору. У той час, як „земляробства і жывёлагадоўля несаізьмерымы ў натуралістычных элемэнтах, пасеўная плошча і колькасьць рознага віду жывёлы ня маюць агульна-натуралістычнай меры". На самай справе, што перш за ўсё азначае: устанавіць сельска-гаспадарчыя раёны?—гэта перш за ўсё азначае прасторавае параўнаньне колькаснай моцы, як сельскаї гаспадаркі наогул, так і ў яе паасобных галінах. Для таго-ж, каб зрабіць гэтае параўнаньне мажлівым, трэба мець параўн ўчую адзінку. Апошняй зьяўляецца грашовая адзінка, а валавая прадукцыя гаспадаркі (а таксама і тэрыторыі, паколькі сельская гаспадарка апошняй ёсьць сума гаспадарак, разьмешчаных на ёй) наогул і ў падзеле на паасобныя галіны ёсьць найбольш поўны і аб'ектыўны паказчык. З другога боку, характарыстыка арганізацыйных тыпаў сялянскае гаспадаркі не павінна прапускаць такога моманту, як падзел на сацыяльныя групы, бо так любімая нэо-народнікамі сярэдняя гаспадарка не дае канкрэтнага ўяўленьня сапраўднасьці, а толькі замазвае апошнюю.

Праўда, гэтая сярэдняя гаспадарка ўзята А. Смолічам не як сярэдня-арытмэтычная, а некалькі арыгінальна, але гэтая арыгінальнасьць уносіць яшчэ большую блытаніну. Натуральная-ж „падстава" А. Смоліча пры раёнаваньні азначае, што сапраўднае разьвіцьцё гаспадаркі, як тэхнічны прагрэс і на яго падставе рост тэхнічных сіл, адкідаецца.

Разрыў паміж натуральнымі і сацыяльна-эканамічнымі фактарамі, гэтая недыялектычнасьць падыходу да тлумачэньня залежнасьці сельска-гаспадарчага разьвіцьця ад розных фактараў, замазваньне сапраўднасьці сярэдняй гаспадаркай, а таксама натуралістычны памер наперад пакідаюць дасьледчыка з няправільнымі вынікамі.

Далей разгледзім: 1) мэтад арганізацыі досьледаў, 2) распрацоўкі матэрыялу і яго навуковай апрацоўкі і 3) вынікі, зробленыя аўтарам.

Перш за ўсяго кідаецца ў вочы адсутнасьць падрыхтоўкі і выразнага навуковага падыходу да досьледу. Так, распрацоўка даных масавае статыстыкі, на падставе якіх і былі вызначаны аўтарам арыентыровачныя раёны, праводзілася ўжо пасьля бюджэтна-агранамічнага дасьледваньня, у выніку чаго дасьледваныя гаспадаркі разьмеркаваліся паміж раёнамі зусім ня роўна, а іменна:

| | | |
|---|---|---|
| I раён — дасьледвана | . . | 34 гаспадаркі |
| II „ „ | . . | 20 „ |
| III „ „ | . . | 6 „ |
| IV „ „ | . . | 6 „ |

Ня кажучы ўжо наогул аб недастатковай колькасьці матэрыялу для выкананьня пастаўленай аўтарам задачы, *па 6 гаспадарках* ні ў якім разе ня можна, ня толькі рабіць раёнаваньне, але і даць нават прыблізнай характарыстыкі організацыйных тыпаў сялянскае гаспадаркі.

Праўда, аўтар і не спрабуе рабіць раёнаваньне паводле матэрыялаў свайго досьледу, а скарыстоўвае гэты матэрыял для характарыстыкі тых раёнаў, якія вызначаны ім па даных масавае статыстыкі за 1916 г., зусім ігнаруе такі факт, як Кастрычнікавая Рэвалюцыя і зьмены ў сельскай гаспадарцы, якія адбыліся ў зьвязку з ёю.

Далей, узятыя для досьледу так званыя „тыповыя, сярэднія" гаспадаркі аказваюцца, нарэшце, па словах самога аўтара, „у большасьці нятыповымі", бо яны ў адной воласьці атрымаліся „даволі беднымі", а ў другой „крыху буйнейшыя", а то і саўсім „хаваюць сваё сапраўдныя разьмеры". А здарылася такая блытаніна таму, што ніякага навуковага падыходу ў выбары гэтых „тыповых" гаспадарак ня было, а пытаньне вырашалася суб'ектыўна студэнтамі (ды яшчэ І-га курсу), якія праводзілі запаўненьне анкет.

У выніку сказанага атрымаўся матэрыял, які ў шмат якіх мясцох не здавальняе нават самога аўтара.

Цэны, якія былі ўзяты аўтарам пры распрацоўцы матэрыялу, як паказаныя гаспадарамі, так і сярэднія з гэтых паказаньняў па воласьці, павеце і Рэспубліцы, зьяўляюцца саўсім умоўнымі і спрэчнымі.

Прынцыпова няправільным зьяўляецца і габінэтнае балянсаваньне прадуктаў, якое аўтар чамусь абараняе агульнымі развагамі аб крытычнай праверцы, якую, нам здаецца, лепш за ўсё зрабіць з самім гаспадаром пры роспыце.

Норматыўны вучот працы, ужываемы аўтарам (старонка 62), дзякуючы „супярэчным паказаньням" матэрыялу, зьяўляецца таксама недапушчальнай мэтадолёгічнай вольнасьцю.

У мэтодыцы вызначэньня раёнаў (узяцьцё паказчыкаў, устанаўленьне інтэрвалаў, а таксама злучэньне паказчыкаў і інтэрвалаў) зусім адсутнічае выразнасьць. За падставу, як ужо было адзначана, аўтар бярэ натуральныя паказчыкі (характар краявіду), а другія ўжываемыя паказчыкі групуе саўсім мэханічна (нават без прытрымваньня прынцыпаў так званага ім „самага простага спосабу картаграфаваньня"). У выніку чаго атрыманы раён зараз-жа рассыпаецца на шэраг падраёнаў, паміж якіх нават цяжка злавіць розьніцу.

Дзякуючы ўсяму вышэйсказанаму як аб тэорэтычнай устаноўцы аўтара, так і аб яго мэтодыцы і скарыстаных матэрыялах,

вынікі гэтай працы патрабуюць да сябе вельмі крытычных адносін. У большасьці гэтыя вынікі зьяўляюцца саўсім неабгрунтаванымі, інтуітыўнымі меркаваньнямі аўтара, а ў пасобных выпадках нават супярэчаць даным досьледу, або пабудаваны на адмаўленьні паказаньняў апошняга.

Гэтае можна паказаць на некалькіх прыкладах. Так, у спажыцьці сям'і аўтар знаходзіць на Беларусі паміж асобных валасьцей такую розьніцу, якая існуе паводле слоў аўтара, паміж спажыцьцём „немца і кіргіза" Розьніца ў спажыцьці хістаецца ад 53,1 жытніх адзінак (Буйнавіцкая воласьць) да 131,2 ж. адз. (Самахвалаўская воласьць). Гэтая „дужа вялікая розьніца" тлумачыцца аўтарам тым, што „існуе *мусіць* (?), шмат прыродных, эканамічных і культурна-гістарычных прычын" (стар. 119). На старонцы-ж 43 аўтар гэтымі-ж самымі прычынамі тлумачыць, якраз адваротнае, згладжваньне нераўнамернасьці спажыцьця.

Як бачым, колькасная недастатковасьць матэрыялу, адмыслова ўзятыя, так званыя, „тыповыя" гаспадаркі і цэны, далі сябе адчуць і саўсім заблыталі аўтара. На стар. 76 аўтар, разглядаючы сьвінаводства, агарошвае чытача такім парадоксам, як катэгарычная, на падставе даных досьледаў, заява аб тым, што „яно зьяўляецца адною з другарадных і маларэнтабельных галін", якая аплачвае працу селяніна „горш за ўсе іншыя галіны". Далей-жа, на стар. 77 аўтар, спужаўшыся свайго вываду, заяўляе, што даных дасьледваньня „нельга лічыць характэрнымі для гэтай галіны ў Беларусі".

Другім парадоксам гучыць і такое сьцьвярджэньне аўтара, як большая за сьвіней рэнтабельнасьць авечак, якіх ён прызнае „інтэнсыўнай галінай" і ў адносінах да якіх жадае ўнесьці нешта самабытнае. Можна яшчэ прывесьці цэлы шэраг супярэчных і неабгрунтаваных разважаньняў аўтара, але досыць і гэтага. Наогул-жа развагі аўтара можна характэрызаваць, як бессыстэмныя, з адарванасьцю ад часу і сапраўднага жыцьця.

„Важнейшыя практычныя вывады" аўтара, якія вызначаюць плян „абслугоўваньня сельскае гаспадаркі", зьяўляюцца саўсім лішняй і неабгрунтованай патугаю, бо гэты плян, на непараўнаўча больш грунтоўных матэрыялах і з непараўнаўчаю выразнасьцю быў ужо вызначан у пэрспэктыўным пляне НКЗ раней, чымся аўтар выпусьціў сваю працу.

У заключэньне неабходна яшчэ застанавіцца на надзвычайна вольных адносінах аўтара да беларускае мовы наогул і ўжываемых ім у значным ліку штучных слоў. Як прыклад такіх вольных выразаў можна прывясьці: —„алейнае семя". „Менская Беларусь" і шмат іншых. Што за „алейнае семя"?—А гэта, бачыце, ільнянае семя, з якога здабываецца алей. Дык з такім-жа правам мы можам назваць ільнянае быльлё „штанінным быльлём", бо з яго здабываюцца штаны, а ў выніку гэта будзе абсурд. Чаму „Менская Беларусь?"...

Ці возьмем ужываемыя аўтарам словы: —„ацэны", „перайсьцёвы", „першастковы", „усталёны погляд" і г. д.

Тэорэтычная і мэтадолёгічная блытаніна, ставіць навуковую каштоўнасьць працы А. Смоліча пад знакам запытаньня.



## ЗЬМЕСТ

